Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 31 (4729) 9 жніўня 2013 г.



## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў старшыню праўлення Саюза пісьменнікаў Расіі Валерыя Ганічава з 80-гадовым юбілеем. «У Беларусі Вы карыстаецеся вялікім прызнаннем як выдатны пісьменнік, мысліцель і публіцыст, чые творы, прасякнутыя высокімі пачуццямі любові да Айчыны і вернасці ідэалам славянскага братэрства, уваходзяць у залаты фонд рускай літаратуры», — гаворыцца ў віншаванні. Аляксандр Лукашэнка выказаў упэўненасць, што Валерый Ганічаў і надалей будзе спрыяць умацаванню сяброўства і культурнага супрацоўніцтва народаў Беларусі і Расіі. Прэзідэнт пажадаў юбіляру доўгіх і плённых гадоў жыцця, здароўя, натхнення, поспехаў, шчасця і дабрабыту.

✔ Кіраўнік дзяржавы павіншаваў народнага артыста СССР Ігара Лучанка з 75-годдзем. «Усё сваё жыццё Вы прысвяцілі нястомнаму служэнню мастацтву. Вашы творы, якія ўвабралі ў сябе найлепшыя рысы і традыцыі нацыянальнай музычнай культуры, уваходзяць у рэпертуар некалькіх пакаленняў выканаўцаў і з'яўляюцца сапраўднай візітнай карткай нашай краіны ў свеце», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў генеральнага дырэктара Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі Уладзіміра Пракапцова з 60-годдзем. «Сваё жыццё Вы прысвяцілі нястомнаму служэнню беларускаму мастацтву. Дзякуючы Вашаму шматграннаму таленту, энергіі і аўтарытэту Нацыянальны мастацкі музей стаў вядучым культурным і навукова-асветніцкім цэнтрам нашай краіны, дзейнасць якога шырока вядомая ва ўсім свеце», — адзначыў Кіраўнік дзяржавы.

✔ Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста Беларусі Віктара Манаева з 55-годдзем і выказаў надзею, што акцёр і далей будзе гэтак жа плённа і самааддана служыць тэатру, цешыць прэм'ерамі шматлікіх прыхільнікаў, узбагачаць сваёй творчасцю скарбніцу беларускага мастацтва.

✔ Праект «Славянскае братэрства» прадстаўлены ў Віцебскім мастацкім музеі. У экспазіцыю ўвайшло больш як 70 твораў прадстаўнікоў Беларусі, Расіі, Украіны і Сербіі. Сярод работ — маляўнічыя і графічныя пейзажы, партрэты, нацюрморты, тэматычныя кампазіцыі, якія адлюстроўваюць асаблівасці нацыянальнага каларыту, побыту і культуры. Ідэйным натхніцелем выстаўкі выступіла прадстаўнік Уладзімірскай школы жывапісу Наталля Брытава.

✔ Заўтра ў вёсцы Крэва Смаргонскага раёна каля сярэднявечных сцен пройдзе фестываль «Крэўскі замак». Падчас мерапрыемства будуць прадстаўлены розныя плыні сучаснай танцавальнай і песеннай інтэрпрэтацыі традыцыйнай культуры. Удзельнікі фэсту пазнаёмяцца з аўтэнтычнай культурай і рамёствамі, добраахвотніцкімі ініцыятывамі па ахове спадчыны Беларусі. Арганізатары рыхтуюць таксама інсцэніроўку падзей 628-гадовай даўнасці — падпісання Крэўскай уніі. Мэта фестывалю — звярнуць увагу на ахову матэрыяльнай і нематэрыяльнай гісторыка-культурнай спадчыны Беларусі ў цэлым і спадчыны Крэва ў прыватнасці.

Падрыхтавала **Міра ІЎКОВІЧ**



Фота Кастуся Дробава

*Улетку ўдзельнікі народнага літаратурнага тэатра «Жывое слова» адпачываюць. Але напярэдадні Міжнароднага дня моладзі яны сустрэліся для таго, каб падзяліцца цікавымі навінамі і абмеркаваць новы тэатральны сезон. У канцы верасня «жывасловцы» возьмуць удзел у Міжнародным фестывалі студэнцкіх тэатраў «Тэатральны куфар», адным з найбуйнейшых міжкультурных моладзевых праектаў.*

*Любоў Сардэчная, Марына Булава, Алеся Сівохіна, Алесь Мойскі (злева направа).*

### Пытанне да творцы

# Хто ён, малады літаратар?



**Алесь Бадак, намеснік дырэктара РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» — галоўны рэдактар часопіса «Нёман»:**

— Сённяшнія маладыя ў многім падобныя да сваіх папярэднікаў, пра якую эпоху, пра якія час мы б ні гаварылі. Кожнаму пачынаючаму творцу характэрна імкненне заявіць пра сябе. Каб гэта зрабіць, трэба быць арыгінальным, не такім як усе. Калі пачытаем творы маладых паэтаў, празаікаў 20-х гадоў мінулага стагоддзя, убачым шмат падобнага ў стылі, у тым духу, які закладваўся ў іх творах, з тым, што здзейснілі сённяшнія творцы. Але нашы сучаснікі ўсё ж адрозніваюцца ад сваіх папярэднікаў, і нават не столькі з-за таго, што літаратура выйшла на новы якасны ўзровень. Цяпер маладыя маюць такія магчымасці для творчай самарэалізацыі (інтэрнэт, шматлікія выдавецтвы), якіх не мела яшчэ ні адно пакаленне літаратараў. Гэта адбіваецца на іх творчасці. Мяне радуе шматаблічнасць маладой беларускай літаратуры. Але хочацца сказаць: новыя стылі, арыгінальнасць — гэта яшчэ не значыць якасць. Звяртаючыся да 20-х гадоў, бачым: шмат чаго, што было тады модным, незвычайным, не цікава чытачам XXI стагоддзя. Вельмі хацелася б, каб большасць з таго, што ствараюць сённяшнія літаратары, заставалася на доўгія дзесяцігоддзі.



**Яна Явіч, пісьменніца:**

— Малады літаратар — асоба амбітная, з лёгкім апломбам, здольная да навучання. У той жа час гэта чалавек, які ў асноўным прызнае свае памылкі. Праўда, не заўсёды адназначна. Гэта чалавек удумлівы, уедлівы, прынцыповы. Безумоўна, інтэлектуал, таму што без наяўнасці інтэлектуальнай базы займацца літаратурай нельга. Маладыя літаратары розныя, кожны піша ў сваёй манеры, нават у сваім ідыястылі, але ў кожнага абавязкова ёсць свая разыначка ў творчасці. Маладому літаратару не зашкодзіла б больш уважліва прыслухоўвацца да сталых і дасведчаных, наведваць творчыя семінары і імпрэзы, удзельнічаць у профільных конкурсах. І, безумоўна, займацца самаадукацыяй. Менавіта такі, сур'ёзны і адказны, падыход да ўласнай творчасці ў маім разуменні з'яўляецца літаратурнай вучобай.



**Уладзімір Гніламёдаў, празаік, акадэмік:**

— Яму можа быць і сямнаццаць гадоў, і трыццаць, і нават восемдзесят. Гэта чалавек, у якім прачнулася нешта незвычайнае — і ён пачаў пісаць вершы. Менавіта вершы! Так было і са мной, калі я закахаўся. Вы ж ведаеце, што ўсё пачынаецца з кахання — і літаратура, і ўсё астатняе.

Я не звязваю паняцце «малады» з узростам. Ды і сам як пісьменнік пачаўся бліжэй да сямідзесяці гадоў. Раней літаратура была рэгламентаваная, нельга было сказаць тое, што хочаш, трэба было прыстасоўвацца — прыстасоўваліся! Калі пашырыўся сектар свабоды і можна было сказаць больш праўды, шчыра выявіць сябе, гэта стымулявала да таго, каб нараджаліся «маладыя літаратары». Такі літаратар-раманіст нарадзіўся і ў маёй асобе.

*У Саюзе пісьменнікаў Беларусі*

# Чалавек невычэрпнай энергіі

**Днямі старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі, сустаршыня Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі Мікалай Чаргінец ад імя айчынных творцаў накіраваў у Маскву віншавальную тэлеграму старшыні Саюза пісьменнікаў Расіі, сустаршыні Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі Валерыю Ганічаву ў сувязі з яго 80-годдзем.**



Раіса МАРЧУК

Валерый Ганічаў — пісьменнік і вучоны, доктар гістарычных навук, прафесар, акадэмік, старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў Расіі, заслужаны работнік культуры, член Грамадскай палаты Расійскай Федэрацыі, намеснік кіраўніка Сусветнага рускага народнага сабора.

«Беларускія пісьменнікі даўно ведаюць Вас як чалавека, які арганічна і натуральна сумясціў у сабе шчодры талент пісьменніка, публіцыста, вучонага і надзвычайныя арганізатарскія здольнасці, невычэрпную актыўнасць па прапагандзе славянскай духоўнасці і патрыятызму, — гаворыцца ў віншаванні. — Шматмільённая «Комсомольская правда», часопіс і выдавецтва «Молодая гвардия», часопісы «Роман-газета», «Роман-журнал XXI век», якія Вы ўзначальвалі і вызначалі іх маральную і ідэалагічную стратэгію, — яркае сведчанне Вашай патрыятычнай дзейнасці. Па-мастацку плённым стаўся Ваш творчы зварот да гістарычнай тэматыкі. Кнігі «Росс непобедимый», «Тульский энциклопедист», «Флотоводжь», «Русские версты», «Державница», «Адмирал Ушаков» узнавілі вобразы вялікіх і знакавых рускіх дзеячаў розных эпох. Яны праславілі гісторыю Расіі і ўсходнеславянскіх народаў, спрадвеку аб'яднаных пачуццём братэрства.

Пры Вашым актыўным удзеле, паважаны Валерый Мікалаевіч, у 2009 годзе ў Мінску прайшоў з'езд з удзелам беларускіх і расійскіх пісьменнікаў, на якім быў створаны Саюз пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі. Наш творчы саюз жыве, і мы спадзяёмся, што яго дзейнасць будзе яшчэ больш выніковай. Сведчаннем таму — літаратурна-мастацкі і грамадска-публіцыстычны часопіс Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы «Белая Вежа». Нам давядзецца яшчэ шмат папрацаваць для ўмацавання братэрскіх духоўных сувязей. І мы разам, несумненна, гэта зробім…»

# Усё бліжэй да прэміі

Інеса ПЕТРУСЕВІЧ

Прэтэндэнтам ад Беларусі на атрыманне прэміі Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва за 2013 — 2014 гады ўручаны дыпломы намінантаў. Ушанаванне праходзіла ў актавай зале Дома прэсы ў Мінску пры шырокім удзеле прадстаўнікоў сродкаў масавай інфармацыі.

«Грамадства павінна ведаць: гэтыя людзі — гонар краіны і нацыі», — звярнуўся да ўдзельнікаў урачыстасці намеснік Дзяржаўнага сакратара — член Пастаяннага камітэта Саюзнай дзяржавы Іван Бамбіза. Дык хто яны, беларускія намінанты? Народны мастак Беларусі скульптар Іван Міско з серыяй твораў, прысвечаных касманаўтам і касманаўтыцы, народны мастак Беларусі Гаўрыіл Вашчанка з цыклам жывапісных работ патрыятычнай тэматыкі, народны артыст Беларусі, мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору імя Г Цітовіча Міхаіл Дрынеўскі — з канцэртнымі праграмамі, выкананымі ў Беларусі і Расіі.

Творца-майстар, творца-чалавек… І кожны — Асоба! Адказы на самыя розныя пытанні пра жыццёвыя вехі і працоўныя здабыткі герояў урачыстасці прадстаўнікі «мас-медыя» падчас прэс-канферэнцыі мелі магчымасць пачуць з першых вуснаў. Гэта тым больш важна, што цяпер, паралельна з працай экспертнага савета па прысуджэнні прэмій, ідзе актыўнае грамадскае абмеркаванне: гучаць водгукі, выказваюцца думкі.

Нагадаем: тры прэміі Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва прысуджаюцца раз у два гады паводле рэкамендацыйнага рашэння экспертнага савета, якое зацвярджаецца Вышэйшым дзяржсаветам Саюзнай дзяржавы. Галоўны крытэрый адбору — важкасць унёску прадстаўленых твораў ва ўзмацненне братэрства, дружбы і супрацоўніцтва паміж Беларуссю і Расіяй. Стасункі ў галіне культуры не перарываліся ніколі, падкрэсліў падчас цырымоніі першы намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь Уладзімір Карачэўскі.

Імёны лаўрэатаў будуць названыя экспертным саветам да канца года. А ўручэнне ўзнагарод па традыцыі пройдзе на міжнародным фестывалі мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску».




*Героі ўрачыстасці: Гаўрыіл Вашчанка, Міхаіл Дрынеўскі, Іван Міско (злева направа).*

*Беларусь — Кітай*

# Уражанні ад Паднябеснай

**Нядаўна Кітай наведала дэлегацыя кіраўнікоў і прадстаўнікоў СМІ з Беларусі, Украіны і Малдовы. Сярод іх дырэктар радыё «Беларусь», пісьменнік, публіцыст Навум Гальпяровіч. Сваімі ўражаннямі ад вандроўкі ён дзеліцца з карэспандэнтам «ЛіМа».**

— Прыемна, што візіт адбыўся ў час, калі КНР наведаў Прэзідэнт нашай краіны. Паездка была арганізаваная Міністэрствам замежных спраў Кітая дзеля знаёмства з ім, дасягненнямі ў розных галінах, гістарычнымі і культурнымі адметнасцямі. Хоць я ўжо другі раз пабываў у Кітаі, уражанні надзвычай моцныя. Перш за ўсё здзіўляе, як за кароткі тэрмін Кітайператварыўся ў сучасную, адну з наймагутнейшых у свеце краіну. Намеснік Міністра замежных спраў Чэн Гопін падчас сустрэчы падкрэсліў: Кітай лічыць сябе «краінай, якая развіваецца», аднак ужо сёння відаць, што дасягнута вельмі многа.

У Пекіне мы сустрэліся з калегамі-журналістамі з Цэнтральнага тэлебачання Кітая, газеты *China Daily*, часопіса «Кітай», Міжнароднага радыё Кітая і найбуйнейшай кампаніі інтэрнэт-навін. Адбылася сустрэча з прадстаўнікамі Дэпартамента інфармацыі і друку Міністэрства замежных спраў Кітая, Дэпартамента Еўропы, Міністэрства камерцыі.

**— Якія гістарычныя славутасці пабачылі ў Пекіне?**

— Мы наведалі музей Гугун — былы імператарскі палац. І якраз паблізу ад Пекіна арганізаваныя экскурсіі на Вялікую Кітайскую сцяну — адзін з самых старажытных і значных помнікаў свету. Кожны жыхар Кітая марыць пабываць тут.



*На плошчы Цянаньмэнь у Пекіне. Дырэктар радыё «Беларусь» Навум Гальпяровіч, намеснік дырэктара ІАЦ пры Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксей Мацвіла і першы намеснік старшыні Белтэлерадыёкампаніі Аляксандр Саламаха (злева направа).*

Штогод — каля 40 мільёнаў паломнікаў і турыстаў. Даўжыня сцяны — каля 9000 кіламетраў. Звычайна турысты падымаюцца на яе пешшу, але ёсць і фунікулёр, якім мы скарысталіся. У 1984 годзе па ініцыятыве Дэн Сяо Піна было арганізавана ўзнаўленне помніка, выдаткаваныя вялізныя грошы, прыцягнутыя прыватныя сродкі.

Вялікую цікавасць дэлегацыі выклікала наведванне правінцыі Шандун, культурнага, прамысловага, сельскагаспадарчага цэнтра, аднаго з найбуйнейшых у Кітаі (звыш 90 мільёнаў чалавек). Наведалі сельскагаспадарчыя прадпрыемствы, кітайска-беларускі навукова-тэхналагічны парк.

Мы пабывалі таксама на традыцыйным вялікім прадстаўленні ля гары Тайшань: гіганцкае шоу з выкарыстаннем сучасных светлавых і музычных эфектаў распавядала пра гісторыю правінцыі пачынаючы з VIII стагоддзя да н. э. Больш як тысяча прафесійных артыстаў было задзейнічана ў відовішчы. Дарэчы, менавіта ў правінцыі Шандун, у горадзе Цюйфу, нарадзіўся Канфуцый. Тут захоўваецца яго радавы маёнтак і месца пахавання.

Лічыцца, што ў Кітаі вельмі шануюць традыцыі, сваіх паэтаў і філосафаў… Гэта сапраўды так! Тут надзвычай актыўна выпускаюцца кнігі, буклеты, ладзяцца экскурсіі… Гісторыю ведаюць, аддаючы даніну павагі ўсім дзеячам. Вялізны партрэт Маа Цзэдуна размешчаны на цэнтральнай плошчы сталіцы, выявы яго — на грошах, выдаюцца яго кнігі. Асуджаецца «культурная рэвалюцыя», ажыццёўленая «бандай чатырох».

Захапляльным было наведанне Шанхая. Горад робіць незвычайнае ўражанне: шырокія вуліцы, развязкі, тунэлі, эстакады, гмахі пад сто паверхаў… У той жа час тут ёсць унікальны Музей старажытнасці з васковымі фігурамі, жывымі малюнкамі — яны ўвасабляюць гісторыю з сівой даўніны да нашых дзён.

**— Што можна сказаць пра афіцыйныя вынікі вашай вандроўкі?**

— Былі дасягнутыя дамоўленасці пра супрацоўніцтва з Міжнародным радыё Кітая, Цэнтральным тэлебачаннем, пра далейшыя кантакты паміж журналістамі і пісьменнікамі. Мне давялося пагутарыць па тэлефоне з даўнім сябрам нашай літаратуры, вядучым перакладчыкам Гаа Манам, які перадаваў прывітанне нашым літаратарам і асабіста Алесю Карлюкевічу. На Міжнародным радыё Кітая прагучала маё інтэрв'ю. Цяпер мы рыхтуем сумесны радыёмост, плануюцца кантакты з часопісам «Кітай». Кітайскім бокам вельмі прыхільна было сустрэта паведамленне, што радыё «Беларусь» з гэтага года рэгулярна ажыццяўляе праграмы на кітайскай мове.

Пасля нашага візіту з'явіліся матэрыялы пра яго ў кітайскіх СМІ.

Таццяна СТУДЗЕНКА

*Стасункі*

# Шляхамі Агінскіх


Фота Ірыны Рухлі

Падчас падпісання рэзалюцыі.

**У літоўскім горадзе Рэтавас па ініцыятыве Маладзечанскага мясцовага дабрачыннага фонду «Спадчына Міхала Клеафаса Агінскага» і пры падтрымцы Рэтаваскага музея гісторыі і культуры Агінскіх прайшоў «круглы стол» «Беларусь — Літва: на шляху культурнага супрацоўніцтва», у якім узялі ўдзел кіраўнікі ўстаноў культуры, прадстаўнікі органаў дзяржаўнага кіравання, грамадскіх арганізацый і бізнес-саюзаў абедзвюх краін.**

Падчас «круглага стала» падведзены вынікі сумеснай працы, накіраванай на адраджэнне культурнай спадчыны роду Агінскіх, і вызначаны прыярытэтныя напрамкі супрацоўніцтва на 2013 — 2015 гг.

Ва ўмовах глабалізацыі менавіта міжнародныя праекты становяцца моцнымі сродкамі дыпламатыі і механізмамі сацыякультурнай інтэграцыі. Важнасць сумесных акцый і праектаў у развіцці міжкультурнага дыялогу Літвы, Беларусі і іншых краін Еўропы, падкрэсліў мэр Рэтавас Антанас Чарнецкіс.

Кіраўнік Маладзечанскага дзяржаўнага музычнага каледжа імя М. К. Агінскага Р. Сарока і Рэтаваскага музея гісторыі і культуры Агінскіх В. Руткаўскас станоўча ацанілі культурныя мерапрыемствы, рэалізаваныя ў 2011 — 2013 гг. у межах міжнародных праграм «Масты спадчыны Агінскіх» і «Шляхамі паланэзаў Агінскага», а таксама распавялі пра асноўныя кірункі далейшага супрацоўніцтва.

З цікавымі прапановамі выступілі загадчык кафедры культуралогіі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў, прафесар А. Смолік, краязнаўца С. Верамейчык, старшыня Мінскага згуртавання нашчадкаў шляхты і дваранства І. Чакалаў-Шыдлоўскі, дырэктар Нацыянальнага музея імя М. К. Чурлёніса О. Даўгеліс, дырэктар Жэмайцкага мастацкага музея А. Баканаўскас і іншыя. Удзельнікі мерапрыемства пабачылі дакументальную стужку пра жыццё і творчасць М. К. Агінскага, знятую РУП «Беларускі відэацэнтр» (рэжысёр-пастаноўшчык Анастасія Мірашнічэнка).

У бліжэйшы час плануецца распрацаваць міжнародную культурную праграму «Шлях культуры Агінскіх», прымеркаваную да святкавання 250-годдзя з дня нараджэння М. К. Агінскага.

**Павел САПОЦЬКА**

*Даніна павагі*

# Прывітанне з Вішнева

**Ізраільскі прэзідэнт Шымон Перэс, якому днямі споўнілася 90 гадоў, з'яўляецца старэйшым кіраўніком краіны ў свеце. Радзіма яго — мястэчка Вішнева Валожынскага раёна Мінскай вобласці.**

Тут, на Валожыншчыне, днямі прайшлі імпрэзы, прысвечаныя юбілею нашага земляка.

Дачка Перэса Цвіі Вальдэн і пасол Ізраіля Іосіф Шагал адкрылі выстаўку «Шымон Перэс: шлях ад Віленскай вуліцы ў Вішневе да Прэзідэнцкай вуліцы ў Ерусаліме». Быў усталяваны памятны знак на тым месцы, дзе стаяў дом сям'і Перскіх і дзе нарадзіўся хлопчык Шымон. Апрача таго, адбыўся канцэрт артыстаў з Беларусі і Ізраіля, экскурсія па яўрэйскіх мясцінах Валожына і цырымонія ўшанавання памяці ахвяр Халакоста ў вёсцы Вішнева.

На пачатку 1990-х Перэс, які ўжо быў міністрам замежных спраў Ізраіля, наведваў роднае мястэчка. Нягледзячы на тое, што ён не быў там шэсцьдзясят гадоў, адразу пазнаў і знайшоў роднае котлішча і калодзеж.

Менавіта вобраз ізраільскага прэзідэнта, краявіды Вішнеўшчыны і той самы калодзеж паклаў у аснову сваёй карціны «Прывітанне з Вішнева» беларускі мастак Алесь Квяткоўскі. 25 ліпеня разам з будучымі архітэктарамі-ланшафтнікамі, студэнтамі Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта, якія праходзілі пленэрную практыку на Валожыншчыне, майстар пэндзля адкрыў у раённай бібліятэцы Валожына выстаўку жывапісу «Паштоўкі з Вішнева».


Алесь Квяткоўскі «Прывітанне з Вішнева», 2010 г.

— Выявіць талент студэнтаў, не толькі паказаць іх уменне быць архітэктурнымі мастакамі, але і раскрыць як творцаў жывапісу, — гэта асноўныя задачы, якія я ставіў для сябе перад пачаткам студэнцкай практыкі, — адзначыў Алесь Квяткоўскі.

Па выніках пленэру адабралі самыя лепшыя работы студэнтаў і разам з карцінамі мастака аб'ядналі для выстаўкі, якую вырашылі прысвяціць 90-годдзю Шымона Перэса. Палотны яскрава адлюстроўваюць маляўнічыя краявіды Валожыншчыны і саму вёску Вішнева, радзіму ізраільскага прэзідэнта. Істотным з'яўляецца і тое, што мастак А. Квяткоўскі таксама нарадзіўся на Валожыншчыне.

Выстаўка «Паштоўкі з Вішнева» будзе працаваць да канца жніўня, пасля чаго пераедзе ў мінскую бібліятэку імя А. С. Пушкіна.

**Таццяна ШЫМУК**

*Не прамініце*

# Сем прычын для смеху



Для таго, каб прачытаць сёмы нумар часопіса «Вожык», у чытача ёсць, прынамсі, сем прычын.

Першая. У гэтым нумары часопіса дэбютуе рубрыка «Народныя таленты», а разам з ёй — і два адметныя «народныя» мастакі: Тамара Радаванавіч і Аляксандр Ціханаў.

Другая. Рэдакцыя атрымлівае шмат допісаў. Гэтым разам у нумары змешчаны ліст пад назваю «Пяць Сафій і чатыры Арцёмы» ад вучонага Натана Аляксандравіча, які займаецца антрапанімікай. У ім шаноўны навуковец расказвае пра бэбі-брэндынг, «бумы» на імёны, Джона Траволту, яго сына Знішчальніка і многае іншае. Таксама чытач даведаецца, што «аднымі з самых незвычайных імёнаў, якія з'явіліся пасля рэвалюцыі 1917 года, былі Лагшмівар (Лагер Шміта ў Арктыцы), Цас (Цэнтральны аптэчны склад), Персастрат (Першы савецкі стратастат), Кукуцапаль (Кукуруза — царыца палёў), Тролебузіна (Троцкі, Ленін, Бухарын, Зіноўеў)», што «ў Швецыі жыве больш за трыста тысяч чалавек па прозвішчы Карлсан», што «ў вёсцы Кандхмала, што знаходзіцца ў Індыі, ёсць хлопец з імем Я люблю бульбу».

Трэцяя. З «Актуальных карыкатур ад Аляксандра Каршакевіча» становіцца зразумелым, чаму адным хапае для радасці кожнай дробязі, а другім для шчасця мала і мільёнаў.

Чацвёртая. Прачытаўшы ў рубрыцы «"Вожык" на сцэне» п'есу Генадзя Аўласенкі «Што пасееш...», лішні раз пераканаешся, якімі няпростымі бываюць узаемаадносіны «доктар — пацыент» і як яны відазмяняюцца, калі хворы і здаровы мяняюцца месцамі (у прыватнасці, калі «хварэе» аўтамабіль).

Пятая. Пагаджаючыся з вядомым выказваннем пра сціласць і талент, Барыс Бележэнка, Міхаіл Уласенка і Віктар Саланец спаборнічаюць паміж сабой у нялёгкай справе афарыстыкі. А каму вы аддасце першае месца? Б. Бележэнку — «Ты знайшоў залатое яйка? Адшукай залатую курыцу!», М. Уласенку — «Гісторыкі скажаюць мінулае, прарокі — будучыню, а журналісты — сучаснасць» ці В. Саланцу — «Парадокс жыцця: конь бяжыць — яго падганяюць, свіння ляжыць — яе не чапаюць»? А можа, вам больш даспадобы Людміла Юшына і яе «Прыдумкі ад вясёлай кумкі»: «Калісь кахалі хлопцы нас, але ўсяму, як кажуць, час...»?

Шостая. Мастакі-карыкатурысты не стрымлівалі сябе ў творчых пошуках. Алег Папоў заняўся спортам («Спартыўныя замалёўкі»), Алег Гуцол — сеткавым маркетынгам і наскальным жывапісам, Уладзімір Чуглазаў завітаў на дачу і сустрэў там... джэнтльменаў («Джэнтльмены на дачы»), Алег Карповіч выправіўся спачатку ў санаторый, а потым — на рыбалку, Павел Гарадцоў прадаваў магільны тэлефон, а затым усе апынуліся ў казцы («Жылі-былі...»), дзе Баба Яга чытае кнігі, Змей Гарыныч стаіць у чарзе па піва, а каваль Вакула ляціць на чорце ў... Кітай!

Сёмая. З рубрыкі «Іголкатэрапія» і «Навіны з МУС: матай на вус...» чытач высветліць, чаму з праўдзеннем карыды ў Расіі давядзецца пачакаць, у колькі разоў гандляры ўскручваюць цэны на садавіну і гародніну, чаму нельга разяваць раток на чужы мядок і калі сябар становіцца ворагам.

Таму — выпісвайце «Вожык» і не смейцеся без прычыны!

**Юрый ВЯРБІЦКІ**

*Абрысы*

Мастацкі канверт з арыгінальнай маркай «Дзень беларускага пісьменства ў Быхаве» ўвайшоў 5 жніўня ў паштовае абарачэнне. На памятным канверце, тыраж якога складае 30 тыс. экзэмпляраў, адлюстравана адна са славутасцей сталіцы юбілейнага свята пісьменства — герб. Унізе на фоне алфавіта з «Буквара» Спірыдона Собаля старадаўняя кніга і чарніліца з пяром, а ў цэнтры размешчаны надпіс «Дзень беларускага пісьменства ў Быхаве». Падрыхтавана і арыгінальная паштовая марка «А» з выявай друкара ў старадаўняй друкарні, намінал якой адпавядае тарыфу на перасылку простага ліста ў межах Беларусі. Урачыстае гашэнне маркі адбудзецца 1 верасня ў аддзяленні паштовай сувязі № 2 г. Быхава. Над дызайнам канверта і спецштэмпеля Працаваў беларускі мастак Мікалай Рыжы.

Віртуальную выстаўку «Святыя падзвіжнікі праваслаўя» прапануе ў межах праекта «Бібліятэка і маральнае выхаванне ў кантэксце праваслаўных традыцый» Магілёўская абласная бібліятэка імя У. І. Леніна. Яна будзе цікавая даследчыкам рэлігіі, выкладчыкам гісторыі, а таксама студэнтам ВНУ і школьнікам. На выстаўцы прадстаўленыя кнігі Выдавецтва Беларускага Экзархата і праваслаўных выдавецтваў Расіі. Выданні распавядаюць пра жыццё праваслаўных святых. Адрасаваныя шырокаму колу карыстальнікаў. Сярод кніг — «Святая праведная Сафія, княгіня Слуцкая: жыццяпіс (400-годдзю святой праведнай Сафіі Слуцкай прысвячаецца». У выданні прадстаўлена біяграфія і духоўнае аблічча святой праведнай Сафіі Слуцкай, абаронцы праваслаўнай веры, апошняй княгіні горада Слуцка. Прыведзеныя матэрыялы з вядомых пісьмовых крыніц, малітвы, архіўныя дакументы, якія раней не друкаваліся і фотаздымкі.

Сцэнічнае жыццё набыла п'еса Васіля Ткачова «Без Ягора будзе гора» ў Магілёўскім абласным тэатры драмы і камедыі імя В. Дуніна-Марцінкевіча. Пастаноўку ажыццявіў рэжысёр Сяргей Карбоўскі. У спектаклі заняты заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Аляксандр Парфяновіч, актрысы Жанета Зарэмба, Людміла Камілава, Вольга Мацвеева і Юлія Яўтушэнка. Сустрэча беларускага драматурга з гэтым тэатрам адбылася ўжо ў чацвёрты раз. У новым творы ён закранае праблемы паміраючых вёсак і разам з тым — людзей, якім лёсам наканавана было стаць апошнімі іх жыхарамі.

Учора ў Нацыянальным мастацкім музеі адбылося ўрачыстае адкрыццё выстаўкі жывапісных твораў Уладзіміра Пракапцова «Струны прасторы і часу», у межах якой прайшла прэзентацыя кнігі Барыса Крэпака «Квадрыга жыцця» (выдавецтва «Мастацкая літаратура»), прысвечанай жыццю і творчасці мастака і дырэктара Нацыянальнага мастацкага музея. Службовае і грамадскае становішча не перашкодзілі Уладзіміру Пракапцову заставацца рамантыкам. Прадстаўленыя на выстаўцы работы розных гадоў — сведчанне сталага творчага пошуку і самаўдасканальвання. Менавіта ў мастацкіх творах і выяўляецца сапраўдная асоба іх аўтара, паколькі тут ён найбольш непасрэдны і шчыры. Выстаўка будзе працаваць на працягу васьмі дзён.

# «У кожным часе вецер свой…»

**Тыя, хто ўважліва сочаць за сучасным літаратурным працэсам, несумненна, знаёмыя з кнігай Казіміра Камейшы «Паміж кубкам і вуснамі». Знакаміты паэт, лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова і ўладальнік «Залатога Купідона», які перад гэтым выступаў у галіне прозы, у сваіх лірычных запісах, мініяцюрах, што, вобразна кажучы, напоўнілі чарговы «кубак», здолеў сказаць столькі, колькі некаторым не ўдаецца ў апавяданнях дый часам і аповесцях.**

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

У кнізе «Паміж кубкам і вуснамі» лаканічнае суседнічае з уменнем адчуваць самыя складаныя праявы жыцця. Асобныя імгненні, выхапленыя з яго плыні, спалучаюцца з філасофскім заглыбленнем у пэўную з'яву, а філасафічнасць разваг месцамі як бы падсвечваецца тонкім, дасціпным гумарам. Сёй-той, перагарнуўшы апошнюю старонку кнігі, нават шкадаваў, што гаючае «пітво» з яе скончылася. Праўда, найбольш дасведчаныя чытачы не сумняваліся, што з'явіцца працяг, бо пасля выхаду кнігі К. Камейша ў літаратурна-мастацкай перыёдыцы выступаў у тых жа жанрах.

Спадзяванні прыхільнікаў яго таленту апраўдаліся: у выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйшла кніга літаратурных запісаў, мініяцюр, эсэ К. Камейшы «Ад Кромані да Свіцязі». Мяне, аднак, крыху насцярожыў яе пачатак. Адкрываецца кніга ўступным словам самога аўтара. Падобны прыём — нярэдкі. Але назва не якая-небудзь, а «Замест тастамента». Слова паходзіць ад лацінскага testamentum — завяшчанне. Можа, усё ж ранавата рабіць яго К. Камейшу: у пачатку снежня яму спаўняецца толькі 70. Ды, магчыма, гэта я такі прымхлівы... Сам жа па сабе ўступ вельмі цікавы. Найперш тым, што прачыняе браму, якая вядзе ў свет жыцця і творчасці аўтара. Гэта ў пэўнай ступені і штрыхі да біяграфіі, але гэта і жаданне паразважаць над тым, што ў рамкі лірычных запісаў, мініяцюр не ўпісваецца. Як бы там ні было, развагі значныя. Згадкі датычаць маленства аўтара і ўваходзін, знаёмства і кантактаў з пісьменнікамі, пра многіх з якіх падрабязней расказваецца ў другой частцы кнігі, дзе змешчаны эсэ.

Свайго роду эпіграфам да кнігі ўспрымаецца верш К. Камейшы, які ён прыводзіць у сваім уступе:

*У кожным часе вецер свой,*
*І ветразь свой*
*У кожным часе,*
*І свой салдат,*
*І свой вар'ят,*
*І свой герой*
*у кожным часе.*
*Свой млын падзей,*
*І свой маяк,*
*Засевак свой*
*у кожным часе,*
*І песня самая свая*
*Заўсёды ёсць у кожным часе…*

Кніга «Ад Кромані да Свіцязі», як і папярэдняя — «Паміж кубкам і вуснамі», — па сутнасці, размова пісьменніка са сваім часам. Тым, хто з ёй пакуль незнаёмы, будзе цікава даведацца, адкуль узялася назва. Адказ на пытанне можна знайсці ў аднайменным эсэ. Гэта — прызнанне К. Камейшы ў любові таму кутку Бацькаўшчыны, адкуль ён родам, з якім звязаны самыя светлыя думкі і згадкі. На адным дыханні напісана: «Налі-бо-кі!.. Калі прамаўляю гэтае слова, чуецца мне ўдар бярда з таго, яшчэ пасляваеннага часу, калі маці сядзела за кроснамі ды, раз-пораз прапускаючы паміж нітоў маладзічок чаўнака і грукаючы, аж дрыжэлі шыбіны, бярдом, ткала нейкую ўзорыстую дзяружку. Прамоўлю тое слова — і самымі рознымі ўзорамі ткуцца думкі, далёкія і блізкія прыпаміны. І душа зноў просіцца туды, на шырокія і дрымотныя лясістыя прасторы». А яны немагчымыя без Налібоцкай пушчы. «Яе вочы два залатагонныя азёры Кромань ды Свіцязь», — упэўнены К. Камейша.

Кромань, Свіцязь, Налібоцкая пушча… Атрымліваецца ланцужок, кожнае звяно трывалае, адсюль і моцная повязь з роднай зямлёй.

Гэта, што назаўсёды прапісалася ў сэрцы, гоіць душу, а калі апаноўвае роспач, хочацца вярнуцца туды, дзе ёй цёпла і ўтульна. Захапленне, якое з гадамі не забываецца, гучыць у такім прызнанні: «Калі я першы раз пабачыў Кромань, дык ахнуў ад нечаканай прыгажосці. Уразіў не столькі зіхоткі і мляўкі блакіт яго люстэрка, а сам зялёны хваявы ды альховы вяночак, якім быў акаймаваны яго бераг. Лагоднае шкло люстэрка час ад часу разбівалі на пырскі вялізныя рыбіны… Мне думалася, што ад гэтага баліць тутэйшай цішыні. Я ступаў быццам не сваімі нагамі па лагодным пясчаным дне надта доўга і, калі вада падступіла да пахаў, вярнуўся на бераг. Мне сказалі, што далей возера не мае дна і нават заплываць туды небяспечна».

*Нямала ў кнізе і эсэ іншага кшталту — пра пісьменнікаў, з якімі ў К. Камейшы былі асабістыя стасункі. Расказваючы пра іх творчасць, ён шмат згадвае і такога, што вядома толькі яму аднаму. Часам падобныя згадкі нават здымаюць з пэўнага літаратара хрэстаматыйны глянец, затое дазваляюць лепш убачыць яго як чалавека.*

К. Камейша прысвяціў гэтаму возеру сваю паэму. Свіцязі пашанцавала на такіх слынных творцаў, як Адам Міцкевіч, Ян Чачот. Канстатуючы гэта, К. Камейша пракладвае масток і да ўласных назіранняў, сустрэч. Ён расказвае пра Васіля Логаша, які мог бы стаць героем цэлага твора, «ён шмат дзе пабываў, шмат чаго пабачыў, і гасцявалі ў яго шмат знаных людзей, былі між іх і нашы вядомыя пісьменнікі, ледзь не прапісаўся тут сам Андрэй Вазнясенскі». Васіль Логаш, ці проста дзядзька Логаш, натхніў апавядальніка і на паездку ў Навагрудак, дзе, як вядома, у 1253 годзе каранаваўся «на каралеўства Літоўскае» Міндоўг.

У сюжэтную канву эсэ арганічна ўплятаюцца іншыя гістарычныя згадкі, напрыклад, пра паўстанне 1863 года пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. К. Камейша расказвае і пра тое, «як праславілася налібоцкае шкло, налібоцкі крышталь! У XVIII стагоддзі князёўна Ганна Радзівіл засноўвае тут буйную шкляную мануфактуру. І жаданне здзівіць Еўропу майстэрствам шклянога рамяства, здаецца, спраўдзілася. […] Шкляныя вырабы з Налібок зберагаюцца ў Эрмітажы, у Музеі этнаграфіі і мастацкіх промыслаў у Львове, музеях Гданьска, Кракава, Вільнюса і Каўнаса». Тут жа гаворка пра славутую бібліятэку ў маёнтку Храптовічаў. Дый як было не з'явіцца ў творы гэтым згадкам, калі «ў пушчы (маецца на ўвазе Налібоцкая пушча. — **А. М.**) што ні мястэчка, дык часцінка нашай вялікай і багатай гісторыі».

Гісторыя — «паненка» з норавам. Усялякага было, і ад гэтага нікуды не дзенешся. Таму ў К. Камейшы з'явілася такая выснова: «Калі Белавежская пушча — гэта люстэрка, куды спяшаліся паглядзецца, адвесці душу вялікашаноўныя гэтага свету, ехалі, у залатых фаэтонах, каціліся сюды на царскія ды каралеўскія паляванні, дык Налібоцкую можна параўнаць з кашальком, за які ўмелі трымацца не толькі айчынныя магнаты, але і рознай масці хітруны, бо ў кашальку тым добра пазвоньвала дукатамі».




Так і адбываецца ў эсэ пераход ад асабістага да разваг, якія маюць агульна-грамадскае значэнне. Пазбаўляючыся нацыянальнага бяспамяцтва, нельга не прачытваць уважліва гісторыю свайго краю. Безумоўна, у гэтым кірунку апошнім часам шмат робяць навукоўцы, але бывае, што дастаткова і асобных згадак, як гэта відаць з эсэ «Ад Кромані да Свіцязі». Важна толькі, каб яны ішлі з глыбіні душы апавядальніка, з'яўляліся вынікам яго жадання сказаць сваё слова там, дзе яно ніколі не будзе лішнім. Як і ў эсэ «Вяртанне глінянага коніка», у якім расказваецца пра цэнтр беларускага ганчарства Івянец, пра людзей, якія робяць з гліны сапраўдныя цуды, а таксама ў некаторай ступені і пра гісторыю гэтага даўняга рамяства.

*Гісторыя — «паненка» з норавам. Усялякага было, і ад гэтага нікуды не дзенешся. Таму ў К. Камейшы з'явілася такая выснова: «Калі Белавежская пушча — гэта люстэрка, куды спяшаліся паглядзецца, адвесці душу вялікашаноўныя гэтага свету, ехалі, у залатых фаэтонах, каціліся сюды на царскія ды каралеўскія паляванні, дык Налібоцкую можна параўнаць з кашальком, за які ўмелі трымацца не толькі айчынныя магнаты, але і рознай масці хітруны, бо ў кашальку тым добра пазвоньвала дукатамі».*

Нямала ў кнізе і эсэ іншага кшталту — пра пісьменнікаў, з якімі ў К. Камейшы былі асабістыя стасункі. Расказваючы пра іх творчасць, ён шмат згадвае і такога, што вядома толькі яму аднаму. Часам падобныя згадкі нават здымаюць з пэўнага літаратара хрэстаматыйны глянец, затое дазваляюць лепш убачыць яго як чалавека. Дарэчы, падобны падыход назіраецца ўжо і ў новых кнігах, якімі папаўняецца знакамітая серыя «ЖЗЛ» («Жизнь замечательных людей»), што працягвае выходзіць у выдавецтве «Молодая гвардия» ў Маскве. Нават пра самых-самых выдатных дзеячаў не баяцца прыгадваць тое, што раней успрымалася б негатыўна. Час унёс свае карэктывы, і, думаецца, гэта правільна.

Варта адзначыць яшчэ некаторыя адметнасці — даверліва-спавядальны стыль, напоўненасць лірычнымі адступленнямі, уменне пісаць так, каб адразу заінтрыгаваць чытача. Найлепшы прыклад таму — эсэ «Верасовы ўзятак важкі». У ім расказваецца пра Анатоля Астрэйку — паэта-легенду, пра якога, на жаль, маладое пакаленне чытачоў ведае не шмат, а некаторыя і зусім не ведаюць: «Тры пачатковыя літары ў беларускім паэтычным алфавіце яшчэ ў школьныя гады прагучалі для мяне наступнымі імёнамі: Астрэйка, Бялевіч, Вялюгін… Да кожнага з іх высноўваўся потым і свой шлях знаёмства і нават добрага, шчырага сяброўства».

Лірычныя запісы, эсэ, якія склалі першую частку кнігі, — гэта тое, што трэба чытаць не запар, не спяшаючыся. Тым больш што ў К. Камейшы нямала і выказванняў, якія гучаць афарыстычна, а некаторыя — гумарыстычна. Ва ўступе аўтар спасылаецца на Льва Талстога, які казаў, «што з часам пісьменнікі будуць не сачыняць, а толькі распавядаць пра тое значнае і цікавае, што ім выпадае назіраць у жыцці». Тут жа К. Камейша выказвае і сваё стаўленне да згаданага меркавання класіка сусветнай літаратуры. «Мне здаецца, што гэты час ужо надышоў. Вось і спрабую назіраць, запісваць і разважаць».

Гэта і відаць з яго лірычных мініяцюр, асобныя з якіх цягнуць на невялікія апавяданні, навелы. Пэўныя факты падгледжаны, заўважаны самім. Штосьці пачута ад іншых. Хоць бы гэта: «Можна, аказваецца, з беларускай мовы перакладаць на тую ж беларускую. Так і зрабіў аднойчы Мікола Базарэвіч, дзякуючы памылцы супрацоўнікаў газеты». Гэтая памылка прайшла, калі быць дакладным, у адным з нумароў «ЛіМа». Гадоў дваццаць пяць, а то і болей таму. У канцы гумарэскі аднаго ўкраінскага пісьменніка, прозвішча якога я ўжо запамятаваў, значылася: «З беларускай мовы пераклаў Мікола Базарэвіч». Гэта заўважылі супрацоўнікі тагачаснай Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У. І. Леніна. Патэлефанавалі зранку ў рэдакцыю і патрапілі на мяне. Запыталіся: «Як можна перакладаць з беларускай мовы на беларускую?» Я не разгубіўся: «Дык гумарэска змешчана на апошняй паласе». Тады там публікаваліся гумарыстычныя і сатырычныя творы. «Усё зразумела», — пачулася ў трубцы. Падумалі, што рэдакцыя гэтак пажартавала.

Кніга «Ад Кромані да Свіцязі» — не толькі размова К. Камейшы са сваім часам, але адначасова гэта і споведзь перад вечнасцю, з якой рана ці позна сутыкнецца кожны з нас, грэшных. Пакуль што, кажучы яго словамі, «…подступы да старасці […] заўсёды нагадваюць мітуслівае таптанне перад нейкай брамай, за якой невядомасць». Не кожны можа ставіцца да таго, што чакаецца наперадзе, спакойна. Гэта народны артыст СССР, дарэчы, беларус па паходжанні, Васіль Качалаў за тры дні да смерці ў гаворцы з жонкай і сынам мог прызнацца: «Цікаўнасці няма, але і страху няма таксама».

Як бы ні было, але ў сталым узросце ёсць неадольная неабходнасць паразважаць і пра час, у якім жывеш, пра дарогі, што ўжо пройдзены. Дый пра ўсё тое, што ўбрана ў адно ёмкае і такое важнае слова ЖЫЦЦЁ. Адны бяруцца за напісанне мемуараў. К. Камейша, як бачым, пайшоў іншым шляхам. У выніку і нарадзілася яго дылогія-споведзь (менавіта так хочацца ўспрымаць кнігі «Паміж кубкам і вуснамі» і «Ад Кромані да Свіцязі»), якую, безумоўна, варта аднесці да лепшых набыткаў сучаснай беларускай прозы.

# Прычасціцца чысцінёй

*ПРА ЛЮБОЎ ДА РАДЗІМЫ — ПРАНІКНЁНА І ЦІХА*

У мінулым годзе пабачыў свет новы зборнік Ізяслава Катлярова «Нябесная вестка», які быў адзначаны крытыкай на старонках «Литературной газеты», а неўзабаве і намінаваны рэдакцыяй гэтага ж выдання на літаратурную прэмію «Залаты Дэльвіг». Чым увогуле вылучаецца і прыцягвае ўвагу чытачоў паэзія І. Катлярова? У першую чаргу, высокай інтэлігентнасцю і інтэлектам, культурай радка і эстэтычнай далікатнасцю, вытанчанасцю ўспрымання навакольнага свету, уменнем стварыць вобраз праз ледзь улоўныя штрышкі.

**Марына КАРАБЯНКОВА**

Паэта цікавіць самае загадкавае, што здараецца з чалавекам: як ён адчувае сябе на мяжы, якая падзяляе жыццё і смерць, што ён думае ў гэтыя імгненні, якія пачуцці прыходзяць да яго. Усё гэта мы знаходзім у вершы, якім адкрываецца новая кніга І. Катлярова:

*Вспыхнул воздух мерцающим светом*
*за пределом — чьего? — бытия.*
*Там, по всем бесприметным приметам,*
*и моё завершается «я».*

Тонка, далікатна. Не выпісаны, а, здаецца, выграviраваны на меднай пласціне гэты малюнак! Нават абстрактныя з'явы пад пяром паэта ўспрымаюцца як нешта матэрыяльнае і асязальнае. Аўтар робіць спробу пранікнуць у таямніцу смерці, якую чалавецтва намагаецца разгадаць на працягу ўсяго свайго існавання. І, гаворачы пра нібыта змрочную і драматычную з'яву, паэт віртуозна стварае светлы, узнёслы настрой:

*Безымянное вижу сиянье,*
*безымянную думаю мысль...*
*Может, смерть — это всё же слиянье*
*с тем, что прячет небесная высь?*

Урэшце аўтар выводзіць чытача з нетраў філасофскіх развагаў і далучае да рэчаіснасці: «Иней или ещё паутинка? / Ни о чём я судить не берусь / И летит за снежинкой снежинка / через всё, о чём думать боюсь...» І гэтыя радкі, ценькія, нібы выведзеныя чароўнай палачкай, адкрываюць чытачу магчымасць уявіць не толькі бязмежныя прасторы, якія люляюць сняжынкі, але і ўсё тое, што здольная спасцігаць чалавечая душа.

Мілагучная мелодыка пераліваецца хваламі з верша ў верш, дзе гаворыцца пра з'явы прыроды, у пераважнай большасці пра зіму і снег. Аднак вершы такога кшталту датычаць і стану чалавечай душы: «Боже мой, до чего молчаливы и обидчивы здесь небеса!» Без перабольшвання можна сказаць, што кожны зімні верш І. Катлярова — гэта музычнае скерца ці маленькая саната, дзе многа святла, прасторы і таямнічасці, ад якой на душы робіцца хораша і святочна. Як проста і па-дзіцячы ўзнёсла гучыць наіўнае і шчырарадаснае здзіўленне з таго, што ён бачыць навокал: «Ах, зима, вечно будь такою!» Радуе празрыстасць і натуральнасць гучання вершаванага радка, адна з характэрных рыс паэзіі І. Катлярова. У творах прысутнічаюць і прыкметы часу: «Спарашютирует снежинка, / и вихря снежная пластинка / крутнётся медленно сперва...» Нельга не заўважыць і таго, што лірычны герой — гарадскі чалавек, які па-свойму, неардынарна і свежа, успрымае навакольны свет: «Я выдохну восторгом этим: / «Так хорошо на белом свете!» / «Так хорошо на белом свете!» / И будут белыми слова...» Паглядзіце, колькі значэнняў набывае словазлучэнне «белы свет». Гэта і белы снег, і белая зіма, і белая завея. І ад усяго гэтага белымі робяцца нават словы. Дык хіба не цуд адбываецца ў прыродзе і ў вершы?

Мастацкія дэталі падпарадкаваныя адной задачы: настроіць чытачоў на лірычны лад, выклікаць захапленне і ўзрушэнне тымі дзівосамі, на якія багаты навакольны свет, закінуць у душы іскрынку ўдзячнасці. У героя І. Катлярова, гарадскога




інтэлігента, інтэлектуала, здаровая душа, ясны і светлы розум. Ён ведае цану і смак жыцця, думае, разважае, шукае і радуецца, што Бог даў яму шчасце прыйсці на гэты свет, спазнаваць яго сакрэты і таямніцы.

Афарыстычна, пашыраючы звыклыя значэнні слоў, выказваецца паэт:

*...если душой захотеть,*
*то можно сквозь волны метели*
*Отчизну свою рассмотреть.*

Вось як можна сказаць пра любоў да радзімы — ціха, пранікнёна і прачула. Бо Катляроў перакананы: «Чем тише голос — тем слышней». І зноў жа як быццам пераконвае сам сябе, спадзеючыся, што яго пачуюць і іншыя: «О Родине — не надо всуе, она мне тоже, словно Бог». Часам яго радкі набліжаюцца да крылатых выразаў, настолькі ў іх словам цесна, а думцы прасторна.

У вершах паэта — успаміны пра самых блізкіх, дарагіх людзей:

*Птица запела в окне,*
*ветка в окне отряхнулась.*
*Мама припомнилась мне —*
*глянула и улыбнулась.*

Матулю і бацьку прынялі нябёсы, і вобраз маці бачыцца цяпер амаль нерэальным: «Она в пребелом одеянье — / а хоронили-то в ином — / стояла в розовом сияньи / и даже, кажется, на нём».

А якім драматызмам напоўнены радкі верша, дзе апавядаецца, як бацьку паэта, які толькі што вярнуўся з вайны, прымроілася памерлая жонка. Пра гэта гаворыцца скупа, але выразна і, што цікава, у дыялогах:

*Вдруг отец распахивает сени.*
*Дождь... В саду ворочается мгла...*
*— Шёл с вокзала. А со мною — Женя.*
*Вот до самой хаты довела...*

Дзеянне ў вершы развіваецца паводле законаў драматургіі, нібыта акт са спектакля, трагічны і поўны жыццёвай праўды:

*Воду жадно пьёт отец из кружки.*
*— Кто б сказал... поверил бы?*
*Ни в жизнь!*
*Бабушка, лицом припав к подушке,*
*— Гришенька, — кричит ему, — очнись!*

Падаецца, ніводнага лішняга слова ў гэтых радках:

*Шли мы с ней одни, как в той пустыне.*
*Всё она о Славке и Фаине...*
*У дверей сказала мне: «Бывай!*
*Женишься — детей не забывай!»*
*— Господи! Да что же это значит?! —*
*Бабушка опять в подушку плачет,*
*а отец рыдает у стены...*

І ў заключэнне радок, ад якога перахоплівае дыханне: «Третий день, как он пришёл с войны».

Душэўнай цеплынёй напоўненыя радкі, прысвечаныя роднаму Магілёву, дзе прайшло дзяцінства і юнацтва Ізяслава Катлярова, Дняпру, што сваімі водамі абмываў раны хлапчука пасля вулічных боек, праводзіў у дарогу і сустракаў пры вяртанні. Паэт ідзе па вуліцах горада і... сустракае сам сябе:

*Тот пацан могилёвский, которым я был,*
*нет, не вырос во мне, я его не забыл.*
*Он мне столько теперь запрещает,*
*я прощаю, а он — не прощает.*

Лепшых мясцін за тыя, дзе рос і сталеў, не знайсці — упэўнены, таму і паўтарае амаль даслоўна крылаты выраз, падслуханы ў народзе: «На родине и камень как подушка...»

Не забывае Ізяслаў Катляроў і пра пачуццё, якому «все возрасты покорны», прысвячае яму радкі не менш гарачыя і шчырыя, чым у маладосці, але з пэўнай папраўкай на жыццёвы досвед. Муза І. Катлярова – яго жонка, паэтэса Соф'я Шах, з якой яго шчасліва звязаў лёс. У адным з вершаў удала абыгрываецца імя жонкі: «Ты — Софийский собор, / я — лишь твой прихожанин». Адданасць, давер і шчырасць — вось тыя кіты, на якіх трымаецца іх сям'я:

*Вместе — за порог и на порог,*
*да, к благословенному порогу...*
*Слава Богу, я не одинок,*
*нет, не одинок я, слава Богу.*

Радкі, прысвечаныя каханай, нагадваюць малітоўную споведзь:

*Всё — с любовью, всё у нас любя.*
*Так друг другу мы необходимы,*
*что уже не только для себя,*
*но и для других — неразделимы.*

Паэт знаходзіцца ў тым узросце, калі можна азірнуцца назад, сказаць пра тое, што ўдалося зрабіць, а што не атрымалася, паразважаць пра жыццё і смерць. Да смерці паэт ставіцца па-філасофску, не баючыся, але і не збіраючыся жартаваць з ёю: «А если вдруг... Нет-нет, нельзя об этом, / предупреждал когда-то Пастернак, — / нельзя о смерти говорить поэтам, / себе её предсказывать в стихах». Разам з тым ён перакананы: «Нет смерти, и забвенья тоже нету. Есть вечное движение времён. Есть музыка взаимнейшей любви и жизни безогляднейшая смелость...»

Час ад часу І. Катляроў звяртаецца да Бібліі, знаходзіць у яе тэкстах глыбокія філасофскія думкі:

*«Будущее в прошлом не забудь»,*
*вот уже и сам себе внушаю.*
*«Мудрецом в глазах своих не будь»,*
*в притчах Соломоновых читаю.*

Аўтара цікавіць бясконцасць і неразгаданасць сусвету, часткай якога ён з'яўляецца. Але поўнасцю ўсвядоміць гэтага не можа і з нейкай душэўнай горыччу прызнаецца: «Вот смотрю заплаканным лицом в то, что никогда не станет мною».

Свой штодзённы клопат і занятак паэт ацэньвае так: «Стихосложенье? Нет, стихослуженье». У іншым вершы гаворка ідзе пра тое, што «В славном городе Ерусалиме... Безымянно жили стихари... / Но стихи их были знамениты, / вслушивались даже и цари / в заклинаний колдовские ритмы». І — выказвае запаветнае: «До сих пор себя мы не поймём — / стыдно в этом, Господи, признаться... / Не поэтом бы, а стихарём / на Руси когда-нибудь остаться...»

Хіба не мае права пра гэта марыць Ізяслаў Катляроў?

# Ад Пушчы да Вярбы

Зборнік паэзіі «Беларускі ручнік» — гэта невычэрпная літаратурная крыніца. Аднайменная рубрыка выходзіць у газеце «Белорусская нива» трынаццаць гадоў запар — штодзённа. Кніга — своеасаблівае выбранае з прадстаўленых у рубрыцы твораў.




*Беларускі ручнік: зборнік паэзіі / уклад. Таццяна Ускова. — Мінск: Выдавецкі дом «Звязда», 2013. — 224 с.*

«Беларускі ручнік» складаецца з наступных раздзелаў: «Золата продкаў», «Матулі светлая любоў», «Жыцця аснова», «Яганаруся, Радзіма, табою!», «Бацькоўскі парог», «Мелодыя зямлі», «Сінявокая Птушка мая…», «Я лепшага звання не знаю…» Такім чынам, чытач мае магчымасць абраць найбольш блізкую яму тэму і з ёю пачаць знаёмства са зборнікам.

Вершы Язэпа Пушчы, Янкі Сіпакова, Сяргея Грахоўскага, Веры Вярбы, Кастуся Цвіркі, Уладзіміра Мазго, Міхася Башлакова, Уладзіміра Карызны і іншых аўтараў прысвечаны Маці-Зямлі, роднай мове, Радзіме, праблеме бацькоў і дзяцей.

Тэма Маці-Зямлі і яе ўзаемаадносін з чалавецтвам сёння набывае асаблівую вастрыню і становіцца аб'ектам пільнай навуковай і мастацкай увагі. Гэта звязана не толькі са зменамі, якія адбываюцца ў свеце, але і з патрэбай больш глыбока асэнсаваць узаемныя сувязі прыроды на духоўны свет чалавека. Многія аўтары зборніка сцвярджаюць думку пра тое, што свет прыроды спрыяе духоўна-маральнаму самавызначэнню асобы. Зямля ў паэтызаваным уяўленні — усеагульная маці, апякунка і галоўная заступніца ўсіх людзей.

Вершы прысвечаныя тэме роднай мовы, пераконваюць, што паэты сапраўды закаханыя ў яе, што мова — гэта скарб, варты захаплення і памнажэння.

Прадстаўленыя ў зборніку творы адкрываюць нешта надзвычай істотнае, важнае ў маральным абліччы саміх паэтаў і іх пакаленняў. Вельмі выразна, яскрава паказана ў вершах прыгажосць нашага краю, сялянскае жыццё. Кожны вобраз псіхалагічна праўдзівы, індывідуальна адметны. Унутраная цэласнасць, духоўнае багацце вясковых людзей уражвае і натхняе.

Пазнаёміўшыся з гэтым зборнікам, можна зрабіць выснову, што беларуская паэзія жыве клопатамі пра народны лёс, які праламляецца ў лёсе асобных людзей. Яна вызначаецца пільнай увагай да асобы чалавека і штодзённых праяў жыцця. Рэальныя здабыткі сучаснай паэзіі немалыя. Характэрная яе асаблівасць — зварот да мінулага. Колішнія падзеі пераасэнсоўваюцца з пазіцый сучаснасці.

**Юлія МЯЛІК**



Георгій МАРЧУК

Было нечакана і прыемна: пасля публікацыі маіх тэкстаў («Беларускія матывы») нашы славутыя кампазітары Э. Ханок, А. Чыркун, Р. Сурус, Л. Шурман, У. Саўчык пачалі адаптаваць іх да мелодый. Яшчэ больш прыдало ўпэўненасці і тое, што вядомы на ўвесь свет Нацыянальны акадэмічны хор імя Г. Цітовіча (кіраўнік —народны артыст Рэспублікі Беларусь М. Дрынеўскі) рыхтуе прэм'еры дзвюх песень на мае тэксты «Свята на Прыпяці» і «Полька беларуская». Усё гэта і спрыяла нараджэнню новых тэкстаў, якія прапаную «ЛіМу».

## Вецер кахання

*Давайце паедзем далёка-далёка,*
*Мы на вакзале, вакол агні.*
*Вецер даносіць бусліны клёкат,*
*Вецер вяртае юнацтва дні.*

***Прыпеў:***
*Хочаш на хуткі Франкфурт-на-Майне,*
*Разам на дызель Івана-Франкіўск…*
*Нейкае дзіва, школьная тайна,*
*Франкфурт-на-Майне,*
*Івана-Франкіўск.*

*Нібы па рэйках, бягуць успаміны:*
*Майскае сонца, школьны званок…*
*Наш пацалунак ля польскае гміны*
*Надзейна хавае драўляны масток.*

***Прыпеў.***

*Я спадзяваўся толькі на Бога,*
*У холад і цемру ішоў на перон.*
*Можа быць светлай і наша дарога,*
*Спраўдзіцца дзіўны, далёкі мой сон.*

***Прыпеў.***

## Чаканне

*Прыляціць ён рана-рана,*
*Першы салавей.*
*Вытру хустачкай на ганку*
*Слёзы я з вачэй.*

***Прыпеў:***
*Маё сэрца захапляе*
*Песня салаўя.*
*Мне не верац, а я знаю —*
*Усё яшчэ твая.*

*Усе не вераць, а я знаю —*
*Нам з табою жыць.*
*Папрашу я сваю птушку*
*Песню паўтарыць.*

***Прыпеў.***

*Божа, я вачам не веру.*
*Песня гоніць сон.*
*Ты ідзеш — адкрыю дзверы,*
*Вазьму парасон.*

***Прыпеў.***

*Пад дажджом адной дарогай*
*Пойдзем сонейка шукаць.*
*Няма шчасця больш такога,*
*Як цябе кахаць.*

***Прыпеў.***

## Вальс студэнтаў

*У нас сябруюць Баку і Крычаў,*
*Не пакінуць у горы цябе.*
*Сёння ты рубель пазычыў,*
*Заўтра пазычаць табе.*

***Прыпеў:***
*Часам грошай няма на абед.*
*Не сакрэт, не сакрэт.*
*А над ложкам Нобеля партрэт.*
*Не сакрэт, не сакрэт.*
*Надзею падорыць, шчасце падорыць*
*Родны ўніверсітэт.*

*«Фэйсбук» спіць, «Кантакт» прыціх —*
*Вяселле ў інтэрнаце.*
*Запрашаем вас усіх,*
*Прыкольна ў нас на свяце.*

***Прыпеў.***

*Пралятае пяць гадочкаў.*
*Першакурснік, слухай наказ:*
*Не сумуй, крухмаль сарочку —*
*Здасі залік у наступны раз.*

***Прыпеў.***

*Тут радзімы духоўная сіла.*
*Фізікі ёсць, паэты растуць.*
*Нашы з самых далёкіх краінаў*
*Медалі залатыя вязуць.*

***Прыпеў.***

## Свята хакея

*Сусветных зорак*
*У Мінску парад.*
*Чэмпіянат, чэмпіянат.*
*Забудзь пра вячэру,*
*Забудзь пра абед,*
*Спяшайся купіць*
*Апошні білет.*
*На лёд выходзіць твая дружына,*
*Вітай хакей, мая краіна.*

***Прыпеў:***
*Кружыць планету хакей.*
*Атакі дзявяты вал.*
*Хто на арэне нашай мацней,*
*Сягоння пакажа фінал.*

*Фанаты з намі —*
*Гэта вядома.*
*І сцены нам*
*Памогуць дома.*
*Адна для хакея*
*Тут дарога —*
*Патрэбна толькі*
*Перамога.*
*На лёд выходзіць твая дружына,*
*Вітай куміраў, мая краіна.*

***Прыпеў.***

*Адкрыем вам*
*Свае сакрэты:*
*Не ўсе тут дойдуць да важнай мэты.*
*Хакейнае свята*
*Заўсёды вянчае*
*Дружбу, што межаў*
*Не знае.*
*Цудоўны спорт, цудоўны вечар,*
*З любоўю кажам: да сустрэчы.*

***Прыпеў.***

## Навагодняе танга

*Падае, падае снег*
*На косы твае, на плечы.*
*Дзявочы не чуем смех:*
*Схавалі мы нашу сустрэчу.*
*Музыка, музыка грае*
*Недзе далёка ад нас*
*Дзеда Мароза здзіўляе*
*Танец у позні час.*

***Прыпеў:***
*Танга…*
*Палескае танга*
*У Пінску танцуем зімой.*
*Танга… навагодняе танга*
*Каля ёлкі танцуем з табой.*

*Музыкі дзіўныя гукі*
*З неба ляцяць на зямлю.*
*Вуснамі грэць буду рукі,*
*Да сэрца цябе прытулю.*
*Увекавечыць хвілінку*
*У Бога я папрашу,*
*Хутка цябе, як сняжынку,*
*Па вуліцы я панясу.*

***Прыпеў.***

*Чуеш, як вецер спявае,*
*Ціха калыша ліхтар,*
*Светлай дарогі жадае*
*Апошнім лістком каляндар.*
*Анёлы прагоняць гора,*
*Прыйдзе кахання час.*
*Будзем любіць наш горад,*
*Які пазнаёміў нас.*

***Прыпеў.***



Зінаіда ДУДЗЮК

## Брэсту

*Гэты горад выбраў мяне*
*І на радасць, і на пакуту.*
*Сорак год да яго я прыкута,*
*Гэты горад выбраў мяне.*

*Гэты горад выбрала я,*
*Узаемнай з'яднаны мы доляй.*
*Не разлучыць ніхто нас ніколі,*
*Гэты горад выбрала я.*

*І пакуль мой час не ачах,*
*Тут я спраўдзіць павінна*
*задумы.*
*Ён не знішчыць, не зганіць,*
*не зглуміць,*
*Што я вынесла на плячах.*

## Залатая Горка

*Сэрцу весела было*
*Ці мо часам горка —*
*Толькі клікала мяне*
*Залатая Горка.*
*Узыходжу на яе,*
*Пазіраю ў неба.*
*Залатая, дзе ты? Дзе*
*Тая, што мне трэба?*
*Дзе дзявочы карагод*
*З песняю купальскай?*
*Распытаць бы мне ў каго:*
*Дзе вясне казка?*

*Пад пагрозны гул машын*
*(І дарэмна клікаць!)*
*Легла горка на спачын*
*У тузе вялікай.*
*Тут і волат бы ачах,*
*Зморaны дарэшты.*
*Слёзы стынуць на вачах,*
*Ў сэрца коле нешта.*
*Усё мінула і сышло.*
*Волаты звяліся.*
*Дзякуй Богу, як святло,*
*Назвы засталіся!*

## Падман

*Твой падман мяне кахаў,*
*Абдымаў і цешыў.*
*Хоць хлусліві быў, няхай!*
*Быў ён самы лепшы.*
*А цяпер яго няма,*
*Бач, сканаў дачасна!*
*А таму жыву адна*
*Сумнай і няшчаснай.*

*Дзе трывучасці мяжа —*
*Цешыць незалежнасць.*
*Толькі твой падман, на жаль,*
*Усё ж табе належыць.*
*Мне яго не ўваскрасіць,*
*Не вярнуць з нябыту.*
*Мушу згадкі пагасіць,*
*Абвясціць забытым.*

***

*Медзякі асінавага лісця*
*Пачарнелі на зямлі.*
*І ўсё ж*
*Ім яшчэ здаецца, што калісьці*
*Будзе ў іх сапраўднае жыццё.*

*Велічна зляталі з вышыні,*
*З той цяпер аголенай вяршыні.*
*А ці варта зноў сабе маніць,*
*Што этап якісьці завяршылі?*

*Аджылі, адкрасавалі ўсмак,*
*А цяпер пара растаць*
*і знікнуць.*
*Шые ўборы вам на смерць зіма,*
*Кудасай аплача для прыліку.*

*Колькі адлятае вас штогод*
*Ў небыццё ці мо на пошук волі.*
*А жыццё, як вечны калаўрот,*
*Кожнага сваёй адорыць доляй.*

***

*Не ведаю, каму кланяцца,*
*Якому Богу гадзіць,*
*Што суткі мае доўжацца*
*Па сорак восем гадзін.*

*Мо я з іншай планеты,*
*Што дзіўны займела лёс —*
*Сядзець і пісаць санеты*
*З блаславення нябёс.*

*Я ўжо і не пярэчу.*
*Працую, як хопіць змогі.*
*Блытаю раніцу з вечарам,*
*Сайтаў і блогаў — аблога…*

## Славянскія багі

*У славянаў добрыя багі,*
*Што не знаюць*
*смутку і тугі.*
*Ляда высякаючы за лядам,*
*Быццам усталёўваюць уладу.*

*Жорсткі бог адзін — Пярун.*
*І той*
*Ваяваў найболей з сілай злой,*
*Ачышчаў ад злыбяды абшары,*
*Пра такога можна толькі*
*марыць.*

*А калі нячысцікі ў балоце*
*І вяліся, дык на радасць слоце,*
*Бо ў такую непагадзь павек*
*Не выходзіў з дому чалавек.*

*Ці мо ў лесе заўдзе Лясун*
*Дурня ў нетры,*
*каб развеяць сум,*
*Дзеля жарту часам, дзеля смеху,*
*Жыхарам бароў мо на пацеху.*

*У славянаў добрыя багі.*
*Род і памяць вечна берaглі.*
*Ды адна бяда вісіць над намі,*
*Каб не перавесціся славянам.*

***

*Хто сеяў зло, той атруціўся*
*злом.*
*Хто сеяў смерць,*
*той атруціўся смерцю.*
*Пасля яны ішлі на звод,*
*на злом*
*І, хоць жадалі,*
*не маглі памерці.*

*Калі ўдалося абхітрыць жыццё*
*І здзейсніць яшчэ грахоў нямала,*
*Тады адрынула іх небыццё,*
*Зямля сырая ў нетры не прымала.*

*Благая слава іх перажыла.*
*Жахаюцца народы іхняй долі*
*І спапяляюць думкамі датла.*
*А зло гуляе ўсё яшчэ на волі.*



Фота Анеі Седро



# Кяміль АФСАРАГЛУ

# Камікадзэ

## *Апавяданне*

«Ды што асёл разумее ў "Пэпсі-Коле"». Гэту «прымаўку» Фаталі цяжка было б глынуць нават з вялікай лыжкай мёду, аднак Агаба, які займаўся рамонтам аўтамабільных шын, глытаў іх проста так. А вось калі нарэшце і ў яго выклікалі абурэнне некаторыя Фаталёвы прыказкі, той не застаўся ў даўгу і «наехаў» на суседа. «Слухай, братка, — сказаў ён, — ты тут пры чым? Чаго злуеш? Ды і ўвогуле, што ў нас з табой агульнага? Ты на нарах не парыўся, у выцвярэзнік не трапляў. Вось, ідзі на Гандлёвую, разбі там пару вітрын, пасядзі пятнаццаць сутак, падыхай тамтэйшым паветрам. Можа, тады мы знойдзем, пра што пагутарыць».

Было ім пра што гаварыць ці не, але Агаба не збіраўся распачынаць спрэчкі з чалавекам, які падыходзіў яму ў бацькі. Калі б ён пачуў слоўцы Фаталі ад каго другога, дык, як сам казаў, усунуў бы таго галавой пад гарачы прас. Аднак непрыстойныя суседавы жартачкі без адказу не пакідаў. «Паслухай, Фаталі, — казаў ён, — я паважаю твае сівыя валасы, памятаю, як ты мне ў маленстве купляў эскімо з пламбірам…» І калі ён прамаўляў гэтыя словы, позірк яго з твару суразмоўніка асцярожна перапаўзаў на гарачы прас, што стаяў у кутку.

Пра тое, якім Фаталі быў у маладосці шчодрым і добрым, успамінаў не толькі Агаба, але і ўсе вакол. Па чутках, былі часы, калі Фаталі жыў заможна. Тады ён быў зусім іншым чалавекам, гэта пасля жыццё яго ўтаймавала і ад ранейшага гонару нічога не засталося. Спачатку ён і сам не мог зразумець, у чым тут прычына. А пасля зразумеў, што менавіта грошы надавалі яму ўпэўненасці і няма на зямлі нічога, акрамя безграшоўя, што прымусіла б чалавека пачувацца прыніжаным. Ён любіў паўтараць: «Толькі грошы робяць чалавека чалавекам, а без грошай чалавек нішто».

Агаба ў тыя гады вучыўся ў першым класе. Малы думаў, што сусед працуе на трамваі, таму што, калі пыталі, дзе Фаталі, жонка адказвала: «На працы, на адзінаццатым нумары». Агаба быў перакананы, што Фаталі кіруе адным з гэтых трамваяў, якія з шумам і гучным звонам несліся па рэйках, што дзялілі вуліцу напалам. Але аднойчы ён убачыў, як сусед саскочыў на поўным хаду з трамвая і гэтак жа на хаду заскочыў у вагон, што ехаў насустрач. І тады Агаба зразумеў, што Фаталі, як высвятляецца, ніякі не кіроўца трамвая, а займаецца чымсьці іншым.

Аднойчы, калі Фаталі меў грошы, ён купіў у Доўгага Гюльагі, які гандляваў марожаным, увесь тавар оптам і раздаў мясцовай дзятве. Гюльага, ледзь не скачучы з радасці, схапіў свае драбінкі за вяроўку і звёз іх, не зазываючы, як звычайна, кліентаў крыкамі: «Марожанае, ёсць марожанае!» Яго голас, які ўсім надакучыў, быў звонкім, і можна было аглухнуць ад гэтых крыкаў. Агаба тады яшчэ падумаў, што Фаталі паскупляў і параздаваў дзятве ўвесь тавар гандляра не ад шчодрасці, а проста каб не чуць голасу марожаншчыка. У той дзень Агаба, трымаючы ў адной руцэ эскімо, а ў другой — пламбір, аблізваючы салодкія вусны і гучна чвякаючы марожаным, спытаў:

— Дзядзька Фаталі, а кім ты працуеш на трамваі?

— Кантралёрам.

— Ты правяраеш білеты?

Калі б Фаталі быў цвярозым, можа, ён прыдумаў бы штосьці ці гыркнуў бы на хлопчыка, сярдуючы на яго залішнюю цікаўнасць. Але тут ён ляпнуў усю праўду:

— Ды не, білеты правяраюць другія, а я правяраю кішэні, што там ёсць, колькі… — І адразу ж дадаў: — Гэта работа такая…

Агаба ўсё ніяк не мог зразумець, чаму Фаталі даручылі менавіта такую работу, навошта правяраць кішэні пасажыраў? Толькі пазней, як стаў піянерам, ён усё зразумеў.

У наступныя дні, калі Фаталі зноў скупіў у Гюльагі марожанае і раздаваў яго дзятве, Агаба да яго больш не падыходзіў. Фаталі прычыны гэтага не разумеў і надта перажываў. Аднойчы нават сказаў Агабу: «Браток, з таго часу, як зрабіўся піянерам, ты ўжо старэйшых не паважаеш, у чым справа? А як у камсамол уступіш, дык увогуле вітацца кінеш…» Каб адчапіцца ад яго, Агаба схлусіў, што ў яго ад марожанага пяршыць у горле і па целе кароста паўзе. Фаталі так і не зразумеў, што гэта за хвароба дзіўная ў юнага піянера. «Слухай, — сказаў ён, — гэта ж марожанае, а не бараніна, каб ад яго «краснуха» пачалася». Фаталі любіў кожную гаворку завяршаць у рэшце рэшт мясам. Ён надта любіў мясныя стравы, нібыта нарадзіўся зусім не ў горадзе, а сярод альпійскіх лугоў, дзе пасвяцца статкі бараноў, і выкарміў яго не матчыным малаком, а мясам. Пазней, калі Фаталі адседзеў тры гады і выйшаў на волю, ён нават уладкаваўся на мясакамбінат. Зрэшты, тут была і яшчэ адна прычына: калі ён выйшаў з турмы, чырвоных трамваяў на іхняй вуліцы ўжо не было, прыбралі іх.

Добра яшчэ, што доўга лайдачыць яму не давялося: стрыечны брат Сяідага дапамог уладкавацца на працу на мясакамбінат. Сам Сяідага працаваў там, паводле ўласных слоў, на адказнай пасадзе — аддзяляў мяса ад костак. Заробак быў прыстойны. Пальцы Фаталі ад нараджэння прызвычаіліся да такіх прадметаў, якія рэжуць, таму да новай прафесіі ён прывык хутка і без асаблівага напружання.

Калі пачаліся перабоі з мясам і маслам, «вага» Фаталі, можна сказаць, сягнула нябёсаў. Мяса, якое ён цішком выносіў з мясакамбіната, было не параўнаць з тымі замарожанымі абрубкамі, якія прадаваліся ў крамах — яно было свежым, смачным. Яго ўжо ведалі не толькі ў махале, але і ў пяціпавярховіку, які стаяў трохі вышэй і які называлі «домам мастакоў», ведалі і паважалі. Калі ён раніцай ішоў на працу, з балконаў гэтага дома яго клікалі, рабілі заказы. «Фаталі, прынясі пару кіло бараніны для долмы», — крычалі з аднаго балкона. «Тры кіло буйваліны на катлеты», — замаўляла іншая гаспадыня. Калі замаўлялі супавы набор, Фаталі накіроўваў іх да мясніка Алескера, які гандляваў на рагу вуліц Сёмай Паралельнай і Палухіна.

Пасля добрага падпітку ў Фаталі свярбела старая рана, і ён пачынаў скардзіцца, маўляў, Агаба выгадаваўся на маім марожаным, а цяпер ад мяне нос адварочвае. Зрэшты, здаецца, загвадзка была не толькі ў марожаным. Мясцовыя хлопцы казалі, што паміж імі былі свае асабістыя рахункі. А вось што канкрэтна — пра тое ніхто не ведаў. Фаталі на гэту тэму не гаварыў. Толькі пры нагодзе гразіўся падпаліць Агабаву майстэрню. Калі пачыналася навальніца і ў небе шугалі бліскавіцы, ён звяртаўся да нябёсаў і нібыта падахвочваў воблакі, што сыходзіліся ў вышыні і насылалі на зямлю страшэнны грукат: «Даражэнькія! Грымніце разок як мае быць!» Ён крычаў гэта так азартна, нібыта воблакі — два бараны, што сутыкнуліся на вузкім мосце. Калі бліскала маланка, Фаталі выгінаўся, курчыўся, нібыта хацеў накіраваць яе ў адпаведным напрамку. Туды, дзе месціўся Агабаў цэх па рамонце пакрышак. Уласна, гэта і цэхам назваць было нельга, цеснае памяшканне з нізкай столлю, крывымі сценамі, з дахам, што абваліўся пасярэдзіне. Калі ішоў дождж, у цэху збіралася цэлае возера вады. Агаба даўмеўся выкапаць невялікі раўчук, па якім яна сцякала. «Праўду кажу, калі б я не прарыў гэту каналізацыю, заставалася б толькі прынесці сюды з яхтклуба лодку з ветразем». Вада, што сцякала па канаве, якую Агаба з гонарам называў каналізацыяй, весела бегла і збіралася ў маленькім дворыку Фаталі. Так што лодка, здаецца, патрэбна была зараз яму, а не Агабу. Фаталі сказаць нічога не мог, толькі злосць збіралася ў яго душы.

Калі не было дажджу, «каналізацыя» прастойвала. Часам адтуль выглядваў вялізны пацук. Спачатку з'яўляліся яго доўгія вусы, за імі — нос, толькі пасля ён адважваўся вылезці. Па прарытым вадой рэчышчы ён бег проста ў двор Фаталі. Што ён там рабіў, ніхто не ведаў. З двара толькі даносіўся грукат чаравіка, які Фаталі кідаў у пацука. Праўда, ён заўсёды даваў маху. Пацук усё ведаў, таму не звяртаў увагі на гэткія дробязі, уначы ж, калі надараўся зручны выпадак, грыз чаравік, які валяўся на двары. Відаць, ён меркаваў, што калі згрызе ўвесь чаравік, Фаталі застанецца без зброі і яму не будзе чым кідацца. Хоць і быў ён жывёлай, але разумеў, што калі гэты цяжкі чаравік на платформе калі-небудзь дасягне мэты, яму не мінуць бяды.

Аднойчы Фаталі вярнуўся з працы з чорнай торбай у руках.

— Братка, — сказаў ён пацуку, які пазіраў з норкі, — калі хто цябе і адужае, дык вось гэта Пантэра.

З гэтымі словамі ён выцягнуў з чорнай торбы чорную кошку. Але, мяркуючы па ўсім, пацук таксама добра ведаў сваю справу, ён словы Фаталі засвоіў і нейкі час не высоўваўся. Фаталі наўмысна не карміў Пантэру, спадзяваўся, што драпежніца схопіць пацука, як толькі той з'явіцца. Кошка паводзіла сябе так, што адчувалася: яна выдатна разумее, дзеля чаго яе сюды прынеслі.

Аднаго разу ўначы на двары прагучаў немы віскат. Фаталі пачуў гэты віскат праз сон, але нават не расплюшчыў вачэй. «Малайчына, Пантэра, даўно трэба было зрабіць гэта…», — паўсонны, прамармытаў ён. Яму ўяўлялася, як Пантэра злавіла пацука, усё астатняе ён ужо сніў. А сніў ён, як чорная кошка з засады накінулася на няпрошанага госця і пацуку толькі заставалася жаласна віскатаць. Пантэра прыціснула сваёй магутнай лапай пацукову галаву, не дазваляючы таму паварушыцца. Пры жаданні яна магла б адным махам глынуць сваю здабычу, але, як усе кошкі, не спяшалася, гуляючы са сваёй ахвярай. У гэтым яна знаходзіла асаблівае задавальненне…

Раніцай Фаталі прачнуўся ў выдатным настроі, даўно яму так соладка не спалася. Але як толькі ён выйшаў на двор, высветліў, што пацук згрыз ягоны чаравік да палавіны, парваў на шматкі. А кошка сядзела на дрэве і жаласна мяўкала, відаць, як ускочыла туды, дык цяпер не магла сама злезці. І тады Фаталі зразумеў, што сон яго не спраўдзіўся. З таго часу, знаходзячы раніцай Пантэру на дрэве, ён здагадваўся, што пацук недзе побач. А суседзям толькі таго і трэба было. «Пацук Агабы, — смяяліся яны, — загнаў кошку Фаталі на дрэва, лік 1:0 на карысць Агабы». З такім лікам Фаталі змірыцца ніяк не мог, ён удзень і ўначы абдумваў, як хаця б зраўнаваць лік. І яшчэ ведаў, што калі паварушыць мазгамі, дык тыя пачнуць дзейнічаць лепш за прафесарскія. Ён быў перакананы, што Агаба падкормлівае пацука на злосць яму. Сусед на гэтыя словы не звярнуў увагі, набраўся цярплівасці. «Мы яшчэ паглядзім, хто каму дасць дыхту, куранят увосень лічаць…»

Аднойчы, калі Агаба латаў шыны «Таёты», Фаталі задаў яму пытанне, ды такое, што мала хто ў махале дадумаўся б да гэтага.

— Браток, ты ведаеш, хто такія камікадзэ?

Агаба не надта здзівіўся і з усмешкай на вуснах адказаў пытаннем на пытанне:

— Як жа не ведаць, ці ж мы не гарадскія? — І дадаў: — Гэта грузінскае прозвішча. Камікадзэ, Кікабідзэ — гэта артысты.

— А што, брат, і гэту машыну, якой ты зараз шыны латаеш, таксама ў Грузіі выпускаюць?

— Ды не, у Японіі… Такамата-ямамата.

— Вось тут ты патрапіў, — з нейкім здзіўленнем сказаў Фаталі. Але больш за ўсё яго ўразіла тое, што Агаба раптам загаварыў на японскай мове, і Фаталі ў думках вырашыў, што гэта самая «такамата-ямамата» па-японску значыць «тэкер ямаян» — майстар па рамонце аўтамабільных пакрышак.

Агаба так і не зразумеў, чаго гэта сусед раптам успомніў пра камікадзэ. Фаталі проста так плявузгаць не будзе, калі сказаў, значыць, надумаў штосьці. Зрэшты, Агаба неўзабаве забыў пра гэту размову, нібыта яе і не было. А Фаталі не забыўся, наадварот, ён увесь час штосьці абдумваў, прыкідваў. І пра камікадзэ ён загаварыў наўмысна, але пра тое ведаў пакуль што толькі ён сам. Баяўся, што хтосьці здагадаецца пра яго задуму і ўвесь ягоны план «Барбароса» лясне. А пасля гэтага Фаталі застанецца толькі ганебна з'ехаць з махалы.

Аднойчы на двары зноў пачуўся пацучыны віскат, але ён быў ужо зусім іншы: пацук вішчэў, не змаўкаючы ні на хвіліну. Гідотнае стварэнне сталася ахвярай кавалка галандскага сыру і апынулася ў пастцы, што паставіў Фаталі. Галодная Пантэра ўбачыла, што яе сапернік прыціснуў хвост, і ўжо не палезла на дрэва, а наадварот, расхрабрылася і не збіралася прапусціць магчымасць паквітацца з гэтым мярзотным грызуном, які апынуўся ў няволі. Але пад цяжарам чаравіка, што запусціў у яе Фаталі, мусіла з жаласным мяўканнем адступіцца і збоку назіраць за ўсім, што адбываецца, глытаючы пры гэтым слінкі. Прага помсты апанавала чорную кошку. Аднак па паводзінах гаспадара яна зразумела, што тут ёй няма чым пажывіцца. Фаталі, малоцячы языком, чакаў, пакуль пацук ад стомы супакоіцца. Гідотны грызун, слухаючы лагодны голас Фаталі, зразумеў, што гэты чалавек не збіраецца забіваць яго, а мае зусім іншыя планы.

— Камікадзэ, родны, ну паглядзі, што ты вычвараеш, — Фаталі паставіў перад пацуком піялу са звараным рысам. Ён бачыў у кіно, як камікадзэ перад смяротным вылетам п'юць сакэ. Замест японскай сакэ ён паставіў перад пацуком спадачак з рускай гарэлкай, хацеў прыгнуць яго галаву, прымусіць выпіць, але жывёлінка выкруцілася і выскаліла зубкі. Фаталі ведаў: вып'е пацук ці не, але як вырвецца на волю, абавязкова кінецца ў сваю норку ў цэх. «Ну што ж, цяперака паглядзім, Агаба, хто каму задасць дыхту, — падумаў ён, радасна паціраючы далоні. — Усе ведаюць, хто такі Фаталі».

Ён прывязаў да пацучынага хваста анучку і падпаліў яе. Той забегаў, як шалёны, з аглушальным віскатам, не ведаючы, дзе дзецца. Ад страху ён забыў дарогу, не мог знайсці шлях да сваёй нары, кідаўся з боку ў бок, а пасля шмыгануў у найбліжэйшую шчыліну…

Прыехалі пажарнікі, але ім ужо няма чаго было рабіць: ад «гаспадарчай адрыны» Фаталі засталіся толькі дымныя галавешкі. Ён праклінаў сябе, бурчаў, што трэба было прыдумаць іншы план, бо нават Гітлер не змог рэалізаваць «Барбароса», што ж тут ужо гаварыць пра Фаталі…

Калі суседзі, якія збегліся на пярэпалах, пачалі распытваць: «Што здарылася, Фаталі, хто спаліў тваю гаспадарчую адрыну?», — ён толькі скрывіў рот і неахвотна прамармытаў:

— Камікадзэ!..

**Пераклад з азербайджанскай Ірыны КАЧАТКОВАЙ**

# Казідаўлат Каімдодаў: «Характар народа вызначае яго дзяржаўнасць»



Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Таджыкістана ў Рэспубліцы Беларусь Казідаўлат Каімдодавіч Каімдодаў распавёў пра сваю краіну і культурныя стасункі з беларусамі.

**— Спадар Пасол, якія повязі яднаюць Таджыкістан і Рэспубліку Беларусь?**

— Таджыкістан з Беларуссю знітоўвае многае. Гэта, перадусім, адносіны простых людзей, якія гадамі жылі і працавалі, вучыліся ці служылі разам, а часам і стваралі сем'і. На ўзроўні міждзяржаўных адносін у нас усё склалася добра. Палітыка дружбы і братэрства, якой прытрымліваюцца кіраўнікі абедзвюх краін — Эмамалі Рахмон і Аляксандр Лукашэнка — стварыла спрыяльную глебу для развіцця і пашырэння шматбаковых сувязей Рэспублікі Таджыкістан з Рэспублікай Беларусь. Супрацоўніцтва ў гандлёва-эканамічнай, ваенна-тэхнічнай галінах, у сферах культуры, адукацыі, навукі і па іншых кірунках год за годам узнімаецца на якасна новы ўзровень. За гады незалежнасці паміж намі падпісана каля 100 двухбаковых дакументаў, закліканых ствараць спрыяльную глебу для развіцця адносін. Большасць з іх па сваім характары з'яўляюцца міждзяржаўнымі, міжурадавымі і міжведамаснымі. Па выніках мінулага года тавараварот склаў больш як 75 млн. долараў ЗША, у Душанбэ функцыянуюць «Гандлёвы дом» і крамы, якія рэалізуюць беларускія тавары, ствараюцца сумесныя прадпрыемствы, разглядаюцца новыя формы павелічэння тавараабмену.

Асаблівая ўвага надаецца пытанням супрацоўніцтва ў гуманітарнай сферы. Цяпер ужо ў розных ВНУ Беларусі праходзяць навучанне больш як сто нашых студэнтаў. Толькі сёлета больш як 30 выпускнікоў школ з розных рэгіёнаў Таджыкістана паступілі ў ВНУ Беларусі. Гэта з аднаго боку падрыхтоўка спецыялістаў, а з іншага — зноў жа ўмацаванне стасункаў, паколькі маладыя кадры, якія праходзілі навучанне ў Беларусі пяць-шэсць год, будуць захоўваць любоў да гэтай зямлі, падтрымліваць кантакты з сябрамі, якіх набылі тут. Паспяхова праходзілі дні культуры Таджыкістана ў Беларусі і дні культуры Беларусі ў Таджыкістане.

Цяпер бакі імкнуцца падключыць да працэсу супрацоўніцтва вобласці, раёны, прадпрыемствы.

Сёння, напэўна, няма такой сферы народнай гаспадаркі ў Рэспубліцы Беларусь, якая б не ўяўляла цікавасці для Таджыкістана. Мы пераймаем ваш досвед і рады, калі і вы знаходзіце штосьці карыснае ў нашых навацыях.

**— Як вы лічыце, у адносінах Таджыкістана і Беларусі ёсць свая гісторыя? Дзе яе вытокі?**

— Бясспрэчна, ёсць гісторыя, і нават традыцыі. Нашыя далёкія продкі ў складзе індаеўрапейскіх народаў жылі ў адной прасторы. Пасля адбыліся падзеі, у выніку якіх славянскія народы апынуліся там, дзе жывуць цяпер, індаіранскія народы — нашы продкі — рухаліся на поўдзень і паўднёвы ўсход, апынуліся на цяперашніх тэрыторыях Цэнтральнай Азіі, Ірана, Афганістана і іншых краін Усходу.

І бясспрэчна, блізкія адносіны склаліся ў Савецкім Саюзе. За сем дзесяцігоддзяў знітаваліся чалавечыя лёсы. Нашыя дзеды разам давалі адпор фашысцкім захопнікам, працавалі дзеля велічы агульнай радзімы. Між іншым, у Мінску адна вуліца і сярэдняя школа № 35 носяць імя Героя Савецкага Саюза Дамуло Азізава. Гэта наш зямляк, нарадзіўся і вырас у Сагдзійскай вобласці, працаваў настаўнікам у адной з сярэдніх школ, у 1942 годзе быў адпраўлены на вайну, стаў камандзірам кулямётнага разліку 120-га стралковага палка 69-й стралковай дывізіі 65-й арміі Цэнтральнага фронту, па-геройску загінуў пры абароне Радзімы на тэрыторыі Лоеўскага раёна Гомельскай вобласці. Тады сотні жыхароў Таджыкістана прайшлі праз тэрыторыю СССР, вызваляючы, як і беларусы ды іншыя народы СССР, сваю Радзіму.

За савецкім часам сотні беларусаў жылі ў Таджыкістане, хтосьці служыў у арміі, абараняў межы, хтосьці проста працаваў, нарадзіліся дзеці, унукі. Таджыкі таксама рознымі шляхамі апынуліся ў Беларусі, некаторыя вярнуліся, некаторыя засталіся.

Новая старонка адкрылася ў 1996 годзе з устанаўленнем дыпламатычных адносін паміж нашымі краінамі. А ранейшыя сувязі паслужылі таму, што цяпер нашы незалежныя дзяржавы будуюць адносіны на даверальнай, братняй аснове і супрацоўніцтва ахоплівае розныя сферы.

**— Якія рысы дзяржаўнасці і рысы, закладзеныя ў характарах народаў, блізкія дзвюм нашым краінам?**

— Нашыя народы, перад тым як стварыць незалежную дзяржаву, доўга змагаліся супраць іншаземных захопнікаў, апынуліся ў складзе розных дзяржаўных утварэнняў. Яны не былі захопнікамі, займаліся мірнай працай, захавалі сваю культуру, свае нацыянальныя звычаі і традыцыі, мову і іншыя каштоўнасці.

Таджыкі і беларусы дружалюбныя і гасцінныя, яны цярплівыя і разумеюць, што вялікія дасягненні не нараджаюцца ў адзін дзень. Толькі працай і настойлівасцю можна дабіцца значных поспехаў.

Характар народа вызначае яго дзяржаўнасць. Краевугольныя камяні нашай палітыкі — гэта дружба, узаемавыгаднае супрацоўніцтва. Таму сёння Таджыкістан і Беларусь па многіх пытаннях маюць падобныя альбо блізкія пазіцыі, падтрымліваюць адзін аднаго.

**— Што ўяўляе сабою сучасная культура Таджыкістана? Якія асноўныя кірункі развіваюцца?**

— Нацыянальная культура таджыкаў мае глыбокія карані. Наш народ лічыць носьбітам і захавальнікам тысячагадовай традыцыі, звязанай з культурай усяго персамоўнага арэала. А ў IX — XI стст., падчас праўлення таджыкскай дынастыі Саманідаў, былі створаны спрыяльныя ўмовы для развіцця навукі і культуры, што з'явіліся той глебай, на якой расцвіў талент цэлай плеяды вялікіх вучоных, паэтаў, дзяржаўных дзеячаў. Таджыкскі народ, нягледзячы на шматлікія захопніцкія войны, цягам тысячагоддзяў клапатліва, як самы вялікі скарб, захоўваў сваю мову.

Пасля набыцця незалежнасці развіццю культуры надавалася асаблівае значэнне. Захоўваюцца і развіваюцца наяўныя дасягненні, адраджаюцца некаторыя віды мастацтваў, якія па розных прычынах, а таксама як «перажыткі мінулага», былі «забытыя». Прыкладам, апошнімі гадамі пры садзейнічанні Прэзідэнта краіны Эмамалі Рахмона адраджаюцца дэкаратыўна-прыкладное мастацтва, народныя рамёствы, адкрыліся каледжы, дзе маладыя людзі атрымліваюць прафесію.

Сёння культура для таджыкаў — гэта ўсходняе светаўспрыманне, знітаванае з духоўнай і матэрыяльнай спадчынай, і іх карані сягаюць у глыбокую даўніну. Таджыкі заўсёды былі прыхільнікамі стваральнай творчасці, навукі і асветы, шанавалі незалежнасць і добрасуседскія адносіны, захоўваючы гордасць, як горныя вяршыні, і стойкасць.

Сучасная культура Таджыкістана развіваецца, захоўваючы нацыянальныя каштоўнасці і ўспрымаючы ўсе лепшыя традыцыі сусветнай цывілізацыі. Сёння музыка, танцы, тэатр, кіно, выяўленчае мастацтва, кнігавыданне і іншыя кірункі культуры развіваюцца гарманічна, ёсць дасягненні ў міжнародным супрацоўніцтве ў галіне культуры, развіваецца культурная дыпламатыя.

Функцыянуюць шматлікія ансамблі і творчыя групы, такія вядомыя тэатры, як Дзяржаўны тэатр оперы і балета імя С. Айні, Таджыкскі акадэмічны тэатр драмы імя Лахуці, Рускі драматычны тэатр імя У. Маякоўскага, Дзяржаўная філармонія, вышэйшыя навучальныя ўстановы, гістарычныя і этнаграфічныя музеі, развіваецца паркавая культура.

**— Якая ж галіна культуры развіта найбольш?**

— Думаю, што найбольш паспяховыя — музычнае і танцавальнае мастацтвы. Яны заўсёды мелі сваіх прыхільнікаў. Тэатры развіваюцца, кінематограф таксама апошнімі гадамі робіць больш сур'ёзныя крокі.

**— Ці ёсць у Таджыкістана свой культурны брэнд?**

— У нас ёсць такія ансамблі і творчыя групы, як «Шашмаком», «Фалак», «Зебо», «Гулрэз», якія прадстаўляюць класічнае і народнае музычнае і танцавальнае мастацтва. Акрамя таго, нельга забывацца, што таджыкаў ведаюць па іх паэзіі. Наш народ даў свету вялікіх творцаў.

**— Якія асноўныя шляхі супрацоўніцтва Таджыкістана і Беларусі ў культурнай сферы вам бачацца надалей?**

— У 2011 годзе паміж міністэрствамі культуры Таджыкістана і Беларусі было падпісана пагадненне аб супрацоўніцтве. Правядзенне дзён культуры, абмен дэлегацыямі, сумесныя культурныя мерапрыемствы павінны праводзіцца рэгулярна.

Акрамя таго, мы намераны развіваць культурнае супрацоўніцтва на ўзроўні розных устаноў. Падрыхтавана да падпісання Пагадненне аб супрацоўніцтве паміж Нацыянальнай бібліятэкай Таджыкістана і Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі. Рыхтуецца праект пагаднення аб супрацоўніцтве паміж Нацыянальным музеем Таджыкістана і адным з вядучых музеяў Беларусі.

Ёсць перспектывы супрацоўніцтва ў галіне кнігавыдання, паміж літаратарамі. Кнігі расказваюць, як жывуць народы, якая ў іх гісторыя, лад жыцця.

**— У Беларусі існуе міжнародны фестываль нацыянальных культур. Ці ёсць падобныя праекты ў Таджыкістане?**

— Бясспрэчна. Прычым, такія праекты рэалізуюцца як з падтрымкай дзяржавы, так і па ініцыятыве асобных спонсараў. У прыватнасці, кожны год у дні святкавання Наўруза праводзіцца канцэрт, дзе выступаюць выканаўцы нацыянальных песень і танцаў з Таджыкістана, Ірана, Афганістана і іншых краін рэгіёна. Штогод праводзяцца міжнародны фестываль-сімпозіум народных спеваў «Фалак» і міжнародны фестываль-сімпозіум класічнай музыкі «Шашмаком», дзе бяруць удзел спевакі і музыканты з краін Цэнтральнай Азіі, Кітая, Ірана, Афганістана, Азербайджана.

Акрамя таго, па ініцыятыве розных грамадскіх арганізацый праводзіліся розныя міжнародныя фестывалі і конкурсы для дзяцей і моладзі.

У кастрычніку мінулага года ў Душанбэ праходзіў Пяты Міжнародны кінафестываль «Дзідор» пры спонсарстве Камітэта па тэлебачанні і радыёвяшчанні, а таксама пры падтрымцы Саюза кінематаграфістаў Таджыкістана. Свята праводзіцца раз у два гады і збірае дзясяткі вядомых кінадзеячаў і кінакрытыкаў краін Цэнтральнай Азіі, Каўказа, Расіі, Ірана, Турцыі, Афганістана і іншых краін свету, дэманструюцца новыя фільмы.

Штогод праводзяцца фестывалі тэатральнага мастацтва, самадзейнай народнай творчасці «Парасту» («Ластаўка»), у якім апошнімі гадамі поруч з мясцовымі тэатрамі бяруць удзел творчыя калектывы СНД.

**— Існуюць міжнародныя праекты, такія, як «Культурная сталіца Садружнасці», «Сусветная сталіца кнігі». У іх ваша краіна ўдзельнічае?**

— Яшчэ ў 2001 годзе Душанбэ быў аб'яўлены ААН «Горадам міру». У маі 2010 года, калі ў Таджыкістане адбылося пасяджэнне Савета міністраў замежных спраў дзяржаў-членаў Арганізацыі Ісламская канферэнцыя (цяпер Арганізацыя ісламскага супрацоўніцтва), горад Душанбэ з боку ISESCO быў аб'яўлены «сталіцай ісламскай культуры».

**— Таджыкі захоўваюць нацыянальныя традыцыі ў побыце, адзенні, харчаванні. А што ўвасоблена ў нацыянальных касцюмах? І ці можна ў Беларусі (і дзе) паспытаць нацыянальную таджыкскую кухню?**

— Вы правільна заўважылі: таджыкам уласцівая вернасць сваім традыцыям, беражлівыя адносіны да спадчыны, да ўсяго таго, што вызначае іх самабытнасць. Гэта датычыць і мовы, і адзення, і, вядома, нацыянальнай кухні.

У свой час традыцыйны нацыянальны касцюм таджыкаў, як у мужчын, так і ў жанчын, меў асаблівасці. Характэрныя рысы адзення ёсць у розных горных і далінных рэгіёнах. Цяпер мужчыны ў асноўным носяць сучасную вопратку, у некаторых выпадках з элементамі нацыянальнага касцюма. Прыкладам, старыя носяць цюбецейку, чалму, нацыянальны халат. Простыя людзі носяць традыцыйныя цюбецейку і халат (чапан) у спалучэнні з сучаснымі строямі.

Нацыянальны касцюм больш захоўвае свае традыцыйныя асаблівасці ў жанчын. У касцюм уваходзіць сукенка, якую шыюць часцей з шоўку ці баваўны. Жанчыны носяць таксама шаравары, лёгкія касынкі, хусткі, у некаторых выпадках цюбецейкі, а дзяўчаты па-ранейшаму плятуць каля сарака і больш косак. Поруч з гэтым шырока бытуюць і элементы сучаснага еўрапейскага касцюма.

Зразумела, традыцыйная вопратка па дызайне і форме мае розныя віды. Сустракаюцца дзясяткі відаў сукенак, сшытых у форме «чакан» (вышыўка), з атласу (шаўковая тканіна мясцовай вытворчасці), жаночых і мужчынскіх халатаў, памірскіх джурабаў (вязаных шкарпэткі), абутку, сотні відаў цюбецеек.

Таджыкская кухня вызначаецца багатымі і вытанчанымі стравамі на любы густ. А што да рэстарана ці чайханы, дзе можна пакаштаваць таджыкскія стравы, то мушу сказаць, што мы і над гэтым працуем...

**Пра сучасную таджыкскую літаратуру і стасункі паміж творцамі чытайце ў нумары «ЛіМа», прысвечаным Дню беларускага пісьменства.**

Ірына ТУЛУПАВА

*Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ»*
*і Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі*

# Кніжны свет

**9 жніўня 2013 г.**



***Унікальны праект***

# Паляванне на генія Віцебска

Досыць часта можна пачуць нараканні на тое, што праца сталічных выдавецтваў арыентуецца ў асноўным на сталічную ж публіку і сталічнага аўтара. Маўляў, у цэнтры ўвагі знаходзіцца толькі Мінск, мінчане, па-за межамі сталіцы ўвогуле няма жыцця.
Але гэта зусім не так. Выхад кнігі Людмілы Хмяльніцкай «Прагулкі са старой картай» (выдавецтва «Чатыры чвэрці») — добрае таму пацвярджэнне. Выдатны альбом дазваляе здзейсніць падарожжа ў мінулае аднаго з самых прыгожых беларускіх гарадоў — Віцебска.



*Напалеон Орда «Ратушная плошча ў Віцебску», фрагмент малюнка 1875 — 1876 гг.*

**Марына ВЕСЯЛУХА**

Асноўная асаблівасць выдання ў тым, што, па сутнасці, галоўным элементам з'яўляецца план Віцебска, які быў складзены ў 1904 годзе каморнікам Г. Маісеевым. Але і нарыс, напісаны дырэктарам Музея Марка Шагала ў Віцебску Людмілай Хмяльніцкай, адыгрывае тут не апошнюю ролю. Ён дазваляе нібыта наяве прайсціся па старых вуліцах горада, агледзець будынкі, пазнаёміцца з ладам жыцця яго жыхароў, акунуцца ў атмасферу Віцебска на мяжы XIX — XX ст.

Варта адзначыць, што план Віцебска 1904 года, які захоўваецца ў Дзяржаўным архіве Віцебскай вобласці, трапіў пад пільную ўвагу не ўпершыню. Так, Сяргей Рублеўскі, начальнік аддзела па архівах і справаводстве галоўнага ўпраўлення юстыцыі, у прадмове да кнігі падкрэслівае: «Варта казаць пра ўжо трэці перадрук гэтага каштоўнага дакумента». Аказваецца, план дарэвалюцыйнага Віцебска ўпершыню пабачыў свет у 1904 годзе, адразу ж пасля яго складання. Затым быў перадрукаваны ў 1914-м — у Літаграфіі картаграфічнай установы ваенна-тапаграфічнага аддзела ў Петраградзе. І ўжо ў 1990-я гады пры дзейсным удзеле гарадской газеты «Віцьбічы» быў аддрукаваны з арыгінала ў выглядзе факсіміле.

Думаецца, цікавасць да гэтага ўнікальнага дакумента па-ранейшаму высокая. Разглядаючы план Віцебска, можна здзейсніць экскурсію па старым горадзе — уздоўж старажытных будынкаў, шматлікіх храмаў. Ці, як прапануе Сяргей Рублеўскі, параўнаць старажытныя разгалінаванні вуліц з іх сучасным размяшчэннем. Упэўнена, што план, разам з нарысам, які служыць яго выдатным спадарожнікам, стане добрым падарункам для гасцей горада, а таксама нераўнадушных да гісторыі роднага места жыхароў Віцебска.

Але не толькі план выклікае цікавасць да кнігі «Прагулкі са старой картай». Так, складальнікі выдання вырашылі дапоўніць яго іншымі каштоўнымі для даследчыка матэрыяламі. Да прыкладу, вызначыць, якія вуліцы за мінулае стагоддзе не змянілі свайго размяшчэння, кірунку і нават




шырыні. Гэтай даследчай працай займаўся гісторык, археолаг, галоўны спецыяліст упраўлення культуры Віцебскага аблвыканкама Пётр Падгурскі. Менавіта ён сантыметр за сантыметрам дасканальна вывучаў стары план горада, звяртаючы ўвагу на кожную вуліцу, завулак, будынкі, дзе калісьці размяшчаліся гарадскія ўстановы і службы. Часам адкрыцці былі сапраўды значныя. Так, Пётр Мікалаевіч з захапленнем адзначаў, што некаторыя вуліцы захавалі не толькі свой амаль першапачатковы выгляд, але нават назвы. Усе атрыманыя падчас даследавання звесткі занесеныя ў спецыяльныя табліцы.

Важным складнікам гэтага выдавецкага праекта стаў нарыс пра жыццё горада ў той час, калі складаўся план. Як адзначае Сяргей Рублеўскі, мэта была «акунуць» чытача ў падзеі таго часу. Але атрымалася так, што нарыс не проста дапоўніў план, а наадварот, план служыць добрым дадаткам да таленавіта напісанага нарыса. Ён ператварыўся ў цалкам незалежны расповед, суаднесены са старой картай горада. Больш за тое, Людміла Хмяльніцкая дапоўніла апавяданне выдатнымі ілюстрацыямі са сваёй калекцыі.

Тэкст нарыса рыхтуе для чытача мноства адкрыццяў — не толькі гістарычных, але і літаратурных. У прыватнасці, аўтарка згадвае, што менавіта ў Віцебску, у касцёле Святога Антонія знакаміты рускі пісьменнік Іван Бунін упершыню пачуў гукі аргана і нават прыводзіць вытрымкі з яго ўспамінаў: «Як уразіў мяне арган, калі я ўпершыню (у юнацкія гады) увайшоў у касцёл, хоць гэта быў усяго касцёл у Віцебску». Пасля паездкі 1889 года ён нават напісаў верш «Касцёл» і, паводле ўспамінаў жонкі пісьменніка Веры Мікалаеўны, доўга знаходзіўся пад уражаннем ад наведвання каталіцкага храма.

Варта адзначыць, што кніга «Прагулкі са старой картай» мае нашмат большае значэнне, чым можа падацца на першы погляд. Так, гэта добры падарунак для турыстаў, гасцей Віцебска. Гэта адзнака пашаны і павагі да мінуўшчыны роднага горада. Гэта выдатны «штуршок» да вывучэння гісторыі краю. Але яшчэ — што асабліва важна — рыска да прызнання значнасці беларускай гарадской культуры. А яна — і ў адметнасцях тапанімікі, арганізацыі гарадской прасторы, ладзе жыцця гараджан, своеасаблівых рысах архітэктуры… Нездарма ж Людміла Хмяльніцкая адзін з раздзелаў расповеду назвала «Геній месца» — менавіта так у старажытнасці называлі прыроднага бога кожнай мясцовасці, рэчы ці чалавека. Genuis loci, як усялякі дух, не мае цела, злавіць яго спрабуюць многія, але поспех спадарожнічае далёка не кожнаму. Думаецца, што аўтарам гэтага незвычайнага выдавецкага праекта ўдалося калі не злавіць генія Віцебска, то хаця б ухапіць яго за хвост.

# «Аднаўлення» прычакалі!

Яшчэ з савецкіх часоў у свядомасці беларусаў замацавалася сувязь паміж дзвюма рэспублікамі — Чэхіяй і Славакіяй, якія доўгі час з'яўляліся часткамі адзінай Чэхаславакіі. Але калі параўнаць ступень знаёмства з імі беларусаў, будзе відавочнай нераўнамернасць такіх ведаў. Нашыя суайчыннікі куды больш знаёмыя і з чэшскай гісторыяй (напрыклад, ведаюць аб Пражскай вясне), і з літаратурай (напрыклад, пра Карэла Чапека ці Мілана Кундэру), і з архітэктурай (узгадаць той жа Сабор святога Віта). А вось Славакія застаецца нібыта ў цені.

**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ**

Калі звярнуцца да сітуацыі ў прыгожым пісьменстве, дык у савецкія часы ў Беларусі выходзілі зборнікі славацкіх апавяданняў, казак і вершаў, творы асобных пісьменнікаў, якія перакладаліся Ядзвігай Бяганскай, Уладзімірам Дамашэвічам, Хведарам Жычкам, Уладзімірам Караткевічам і іншымі творцамі. Але агульнае ўяўленне пра Славакію адсутнічала.

Зрэшты, у пачатку 1990-х, калі распаліся старыя культурныя сувязі, не стала і гэтага. Было б наіўна чакаць, што беларуская культура імгненна звернецца да стасункаў са славацкім бокам. А значыць, зноў трэба пачынаць з «малых» спраў і спадзявацца, што рана ці позна яны выйдуць на шырокі прасцяг. Менавіта ў такім кантэксце варта ўспрымаць кнігу вершаў славацкага паэта Яна Замбара «Аднаўленне», якая з'явілася ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» адначасова на славацкай і беларускай мовах. Уклала і пераклала зборнік са славацкай мовы Вікторыя Ляшук, якая, дарэчы, з'яўляецца і аўтарам пасляслоўя. Кніга выйшла пры фінансавай падрымцы камісіі *Slolia*, літаратурнага інфармацыйнага цэнтра (Браціслава).

Колькі слоў пра аўтара. Ян Замбар нарадзіўся ў 1947 годзе ва Усходняй Славакіі. Працаваў на радыё, у часопісе, у Інстытуце мастацкай крытыкі і тэатральнай дакументацыі, цяпер — прафесар кафедры славацкай літаратуры і літаратуразнаўства філасофскага факультэта ва ўніверсітэце Коменскага ў Браціславе. Выступае як перакладчык (пераважна рускай і іспанскай паэзіі), літаратуразнаўца (працы па тэорыі літаратуры, гісторыі і крытыцы славацкай літаратуры, іспанскай паэзіі) і, зразумела, паэт. Як піша В. Ляшук, «паэт належыць да творцаў, якіх у Беларусі называюць філалагічным пакаленнем, паэтычнае натхненне якіх узмоцнена і афарбавана навуковымі ведамі пра літаратуру, яе тэорыю і вершаскладанне». Яго творчы свет «населены эмоцыямі, мастацкімі вобразамі, тэарэтычнымі разважаннямі, жыццёвымі назіраннямі і абагульненнямі. Да таго ж выключна багаты інтэлектуальна і ўпарадкаваны цэннаснымі катэгорыямі, пагружанымі ў жыццёвую плынь, якая нясе паэта паслядоўна праз усе этапы і парогі чалавечага існавання на нашай агульнай зямлі».

*Маці — гэта дом,*
*сціхлая птушка*
*з апалымі крыламі,*
*што не можа ўзляцець.*
*І ўсё ж нястомна прасцінае*
*ўдалячынь*
*крылы дзвярэй*
*і вокнаў*
*На іх крыжы*
*мяне, далёкага,*
*рукамі абвівае.*
*Разгарну яе ліст —*
*імкнуцца да мяне*
*тыя два ціхія крылы.*

**(«Маці»)**

Застаецца спадзявацца, што перакладчыцкая праца набудзе двухбаковы характар і беларуская паэзія загучыць па-славацку.

# Лета з Тумінасам

Першы міжнародны тэатральны фестываль «VASARA-2013» праходзіць у літоўскім горадзе Друскінінкай. Разам з вядучымі тэатрамі Балтыі і краін СНД у ім бяруць удзел Гродзенскі абласны тэатр лялек з «Пікавай дамай» і Незалежны тэатр «Ч» з пастаноўкай «Дзяды».



Сцэна са спектакля «Эмілія Галоці».

## ДРУСКІНІНКАЙ — НАШ І ВАШ

Размешчаны на беразе Нёмана, усяго за 42 кіламетры ад Гродна, Друскінінкай зрабіўся курортам даўно, яшчэ напрыканцы існавання Рэчы Паспалітай. У 1793 годзе, калі гродзенскі «нямы сейм» «згадзіўся» на другі падзел дзяржавы, асабісты доктар Станіслава Аўгуста Панятоўскага эксперыментальна пацвердзіў гаючыя ўласцівасці тамтэйшых мінеральных крыніц. У 1837-м Друскінінкай атрымаў статус горада і стаў месцам адпачынку: у XIX ст. для мясцовай эліты, у XX ст. — яшчэ і для масавых наведвальнікаў.

Цікава: восенню 1939 года, пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР, Друскінінкай адышоў да нашай рэспублікі і толькі праз год быў перададзены Літве. Цяпер горад над Нёманам з'яўляецца прызнаным цэнтрам адпачынку, куды з ахвотай прыязджаюць як літоўцы, так і госці (асабліва з Германіі і Ізраіля). Але, па вялікім рахунку, Друскінінкай не можа пахваліцца надзвычай насычаным культурным жыццём.



Сцэна са спектакля «Цуд са шчыглом».

Таму ідэя правесці тут тэатральны фестываль была ўспрынята вельмі ўхвальна.

Форум атрымаў назву «Vasara», што па-літоўску азначае лета. Прэзідэнтам фестывалю стаў мастацкі кіраўнік Вахтангаўскага тэатра Рымас Тумінас, які з'яўляецца адным з самых прызнаных рэжысёраў постсавецкай прасторы. Сярод членаў журы — знакаміты шэкспіразнаўца Аляксей Барташэвіч (старшыня) і народны артыст СССР Рэгімантас Адамайціс. Беларусь была прадстаўлена галоўным рэдактарам часопіса «Мастацтва» Людмілай Грамыка.

Арганізатарамі выступілі два буйныя мясцовыя санаторыі: «Egle» і «SPA Vilnius SANA». Менавіта на іх пляцоўках праходзілі паказы больш як 20 спектакляў (13 з іх з'яўляліся конкурснымі) з Літвы, Расіі, Беларусі, Арменіі і Малдовы. Напрыклад, Маскву прадстаўляла шэсць калектываў. Прычым, у пастаноўцы тэатра Расійскай арміі ў галоўнай ролі выйшла Людміла Чурсіна, тэатра на Малой Бронная — Яўгенія Сіманава. Галоўны крытэрый удзелу — высокі ўзровень пастановак, а таксама руская (ці беларуская — у выпадку нашых «Дзядоў») мова, на якой мусілі ісці спектаклі. Спынюся на пастаноўках двух надзвычай вядомых маскоўскіх калектываў: Школы драматычнага мастацтва і «Современника».

## ШЧЫГОЛ, АЛЕ БЕЗ ЦУДУ

Творчыя пошукі Школы драматычнага мастацтва звязаны з імем легендарнага рэжысёра Анатоля Васільева. Ён заснаваў і ўзначаліў тэатр у 1987-м, а ў 2006-м быў вымушаны адтуль сысці. Цяпер узровень ШДМ вызначаюць яго вучні. Адзін з іх, Аляксандр Агароў, паставіў у 2007-м спектакль «Цуд са шчыглом», асновай якога зрабілася аўтабіяграфічная паэма Арсенія Таркоўскага. У ёй распавядаецца пра маладога паэта, які здымае пакой у прыгарадным доме. Яго суседзі — сямейная пара, спевакі (сапрана і бас) прычым у апошняга закахана гаспадыня дома.

Уражанні ад спектакля, што адкрыў конкурсную праграму фестывалю, атрымаліся неадназначныя. Калі акцэнтаваць станоўчыя ўражанні, дык заўважу, што гледачы ўбачылі дастаткова стыльную пастаноўку, якая па танальнасці адпавядае агульнаму курортнаму настрою, што пануе ў Друскінінкаі. Ігра акцёраў, спевы пад музыку Шуберта дапамагаюць стварыць і ўвасобіць паэтычную атмасферу, на якой грунтуецца паэма. Асобныя радкі А. Таркоўскага наогул пераўтварыліся ў тэатральныя эцюды: напрыклад, калі герой вяртаецца дадому падчас завеі.

Але можна ацэньваць «Шчыгла» і з больш спакойнай, стрыманай пазіцыі. У адным з нядаўніх інтэрв'ю беларускі рэжысёр Алег Жугжда заўважыў, што «задача рэжысёра паказаць не твор, а свае ўражанні ад яго». Уражанняў ад паэмы ў спектаклі ШДМ якраз не хапіла. Часам узнікала думка, што на сцэне адбываецца літаральнае, паслоўнае ілюстраванне сказаў Таркоўскага. Таму ў пэўны момант нават не здзіўляешся, калі пасля рэплікі пра дождж на героя з вышыні льецца вада. Але ўся глыбіня радкоў паэта (напрыклад, «Её душа по-птичьи пела // И в струнку вытянулось тело, // Когда, на цыпочки привстав, // Она вселенной завладела // И утвердила свой устав») знікае і пераўтвараецца у знешні фон для акцёрскіх практыкаванняў (для аб'ектыўнасці, часам вельмі ўдалых).

Пэўнае расчараванне звязана і з тым, што стваральнікі спектакля назвалі «Шчыгла» працягам вопытаў Анатоля Васільева. І хоць «Цуд са шчыглом» нельга назваць няўдачай, у колішняй славе Школы драматычнага мастацтва ён цалкам не пераконвае.

## ЛЕСІНГ — ПРАЗ ФАРС

Апошнім часам маскоўскі тэатр «Современник» па розных прычынах нячасты госць за межамі Расіі. За апошнія дзесяцігоддзі беларусы бачылі яго толькі ў 2009-м, калі ў Мінску адбыўся паказ пастаноўкі «Мёртвыя душы». У Друскінінкай калектыў прывёз адну з новых прэм'ер, спектакль «Эмілія Галоці», пастаноўку якога ажыццявіла Габрыэла Тумінайтэ, дачка Рымаса Тумінаса. У цэнтры аднайменнай п'есы нямецкага філосафа і драматурга Лесінга — гісторыя галоўнай гераіні, Эміліі, якая збіраецца ўзяць шлюб з графам Апіяні. Пра тое даведваецца прынц Ганзага, сам закаханы ў прыгажуню. Яго камергер Марынэлі прапаноўвае забіць канкурэнта і выкрасці дзяўчыну…

Літаральнае прачытанне п'есы часоў асветніцтва (прычым, трагедыі ў пяці дзеях) наўрад ці выклікала б цікавасць у аўдыторыі і больш бы нагадвала спектакль-музей. Таму Г. Тумінайтэ вырашыла распавесці гісторыю ў выглядзе фарсу з элементамі пароды. Напрыклад, прынц выглядае як герой глянцавых часопісаў, што ўвесь час іграе на публіку. Вельмі характэрнай для пастаноўкі з'яўляецца сцэна, калі ён доўга шукае месца, дзе лепш было б стаць у пафасную позу. Марынэлі пародзіруе класічны вобраз злачынца. А слугі ў чорных плашчах і капелюшах, якія нападаюць на графа, нагадваюць мафію. Асаблівая ўдача — вобраз Эміліі. На працягу большай часткі дзеяння яна выглядае як чысты і ў нечым наіўны падлеткатынейджар. Але ў фінале надзвычай хутка сталее і становіцца дарослай.

Істотна, што выканаўцы, якія ўтвараюць моцны акцёрскі ансамбль, вытрымліваюць стыль і тэмпарытм, зададзены рэжысёрам. Таму «Эмілія Галоці» з'яўляецца дастаткова цэласным спектаклем. Бадай, адзінай лыжкай дзёгцю ў бочцы мёду з'яўляецца пытанне, ці не выглядаюць асобныя фрагменты пастаноўкі фарсам дзеля фарсу. Зрэшты, калі і так, мастацтва дзеля мастацтва таксама мае права на існаванне.

**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ**

***P. S.*** *Аўтар выказвае ўдзячнасць літоўскаму тэатральнаму крытыку, выканаўчаму дырэктару фестывалю Марыі Танана за запрашэнне і арганізацыю вандроўкі ў Друскінінкай.*

# «Жыццё» ў ланцугу эпох

Кожная наступная гістарычная вяха выкрывае адмоўнае ў тым, што раней лічылася… станоўчым. І наадварот. Так, «перабудова» абвяргала прынцыпы сацыялізму, якія не прызнаваў прыватнай уласнасці, рынкавых адносін, хоць, напрыклад, Швецыя квітнее, прыняўшы лепшае з савецкага сацыялізму!

**Таццяна ІГНАЦЕНКА**

Яскравы прыклад разнавіднасці «перабудовы» ў дзяржаве паказаў пісьменнік Андрэй Мрый у сатырычным рамане «Запіскі Самсона Самасуя». Аўтар з планетарным мысленнем бязбоязна паказаў псеўдагуманную галерэю ілжэдэмакратаў любой сацыяльнай эпохі. Твор адказвае на шматлікія праблемы сучаснасці, абавязваючы кожнага грамадзяніна глыбока задумацца пра ступень адказнасці за дабрабыт у сваёй краіне.

Гэты раман, трэба думаць, пісьменнік стварыў у дачыненні да любой дзяржавы, грамадскай эпохі, стварыў без ідэалізацыі, на навуку пакаленням. Невыпадкова для таго, каб пазбегнуць юрыдычнай адказнасці, аўтар «ахрысціў» дзеючых асоб выдуманымі імёнамі: Торба, Злыбядуха, Цыба, Мамон, Зязюлька, Беларыбка, Гарачы, Свярдзялюк, Какоцька, Шкулік, Смятана-Бурчайла, Зычок, Дулянок, Кудлянок і іншыя.

Кожная эпоха нясе адказнасць за зло, самавольства і тупасць. Пісьменнік гэта ясна ўсведамляў. Раман — не вымысел, а прыкрая праўда пра палітычныя кульбіты, спісаныя з жыццёвых фактаў, пра якія варта памятаць, асуджаць і не дапускаць.

На першы погляд можа здацца, што нас, тых, хто жыве ў XXI стагоддзі, не датычацца папярэднія «перабудовы». Але раман — свайго роду зварот да пакаленняў і кожнага грамадзяніна вучыцца быць чалавекам, несці адказнасць за дабрабыт на зямлі.

Лозунгі ў Шапялёўцы (места дзеяння) казалі самі за сябе: «Праз каранняплоды — да камунізму!», «Не плюй у крыніцу!», «Пі ваду свежую, вараную!», «Там дрэнна, дзе нас няма!». Давалі парады: «Каб атрымаць боты, трэба абліць анучы вадой і выйсці ў мароз на вуліцу!». У анкетах для вяскоўцаў патрабавалася адказаць на 300 пытанняў! У музеі спраўна ўзнялі каменную бабу васьмідзесяці пудоў для агляду, засеянае поле выкарыстоўвалі для адпачынку моладзі!...

Сатырычны раман выклікаў думкі — сур'ёзныя, філасофскія і смешныя да слёз. Гэтаму дапамог таленавіты артыст Алег Вінярскі, які ў эфіры Беларускага радыё філігранна чытаў твор у адпаведнасці з сюжэтнай схемай на працягу трох тыдняў. «Жыў» у той ці іншай эпосе ў вобразе кожнага персанажа, імгненна мяняючы акцэнты, тэмбр голасу, музычную афарбоўку і вышыню… З азартам «складаў» «Трагладытны слоўнік» на 3000 слоў!

Толькі майстар слова высокага класа мог «пражыць» каля мікрафона твор з падобным сюжэтам, без глянцу, стварыць галасам карціну побыту ліхадзеяў і працаўнікоў. А дапамагаюць Алегу Вінярскаму глыбокае веданне літаратуры, разумная самакрытыка, прафесійная адказнасць.

**Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»**

## *Слова краязнаўцы*



**Сяргей ЖЫЖЫЯН, дырэктар Быхаўскага краязнаўчага музея, распавядае пра асаблівасці даследчай працы:**

— Займацца краязнаўствам і лёгка, і складана. Кожны даследчык жадае «ахапіць неабсяжнае». Зафіксаваць, вывучыць, усвядоміць, а калі пашанцуе, то і апублікаваць дагэтуль неспазнаныя факты гісторыі роднага краю. А яшчэ ёсць і «любімыя» тэмы, якімі займаешся гадамі…

Для сябе вылучыў два прыярытэтныя кірункі — «кабінетны» і «палявы». Першы цалкам апраўдвае сваю назву. Гэта пошук у розных крыніцах цікавых фактаў з гісторыі Быхаўскага раёна. Хаця з кожным разам аднаўляць па крупінках мінулае становіцца ўсё цяжэй. Дні бягуць няўмольна, услед за імі сыходзяць дробныя, а іншым разам і знакавыя падзеі, якія сёння здаюцца не вельмі важнымі, але ў будучым яны складуць мазаіку, імя якой — Гісторыя. У сённяшняй мітусні складана фіксаваць тое, што адбываецца, але ёсць СМІ, інтэрнэт, электронныя носьбіты... Раней усё было інакш. Катаклізмы мінулых стагоддзяў знішчылі велізарны пласт рукапіснай і друкаванай гісторыі невялікіх рэгіёнаў нашай краіны.

Лічу, што менавіта ў маленькіх фактах крыецца куды большая магчымасць для асэнсавання гісторыі сваёй малой Радзімы, чым у шматтомных трактатах. Мінімальная інфармацыя пра падзею прымушае чытача самога аналізаваць, супастаўляць, пашыраць свае веды. Вынікам маёй працы па пошуку маловядомых эпізодаў развіцця Быхаўшчыны стаў зборнік «101 займальны факт з гісторыі Быхаўшчыны», які рыхтуецца да публікацыі.

«Палявы» кірунак — гэта пошукавая праца ва ўсіх яе праявах. Шмат увагі надаю захаванню і ўвекавечанню памяці абаронцаў Айчыны і ахвяр войнаў, гістарычнай спадчыны краю. Вялікую дапамогу аказваюць мне члены пошукавай групы «Быхаўскі рубеж» (структурнае падраздзяленне Магілёўскага абласнога гісторыка-патрыятычнага пошукавага клуба «Перамога, заваяваная крывёю», заснавальнікам і кіраўніком якога я з'яўляюся). Група дзейнічае пры Быхаўскім музеі з 15 верасня 2010 года. Працуючы з матэрыяламі кніг «Памяць», сайтам «АБД Мемарыял», картамі і, натуральна, на мясцовасці, на тэрыторыі раёна пошукавая група знайшла больш як 80 няўлічаных воінскіх пахаванняў.

Разам са школьнікамі ўдзельнічаем у экспедыцыях і паходах, знаёмімся з ужо вядомымі прыроднымі, археалагічнымі і архітэктурнымі помнікамі Быхаўшчыны. Іншы раз знаходзім і новыя. Восенню 2010 года выявілі і даследавалі камень-артэфакт ва ўрочышчы Царкавішча каля вёскі Ямнае, у 2011-м знайшлі невядомыя навукоўцам стаянкі перыяду каменнага веку побач з вёскамі Трасцівец і Следзюкі. Усе нашы знаходкі і адкрыцці адлюстраваны ў навукова-даследчых працах навучэнцаў, выступленнях на канферэнцыях і інш.

## *Родны кут*

# Адчуем магію легенд

**Людміла МЕЛЬНІКАВА**

Палессе — край, багаты на народныя святы і абрады, песні, легенды і паданні. Частка Лельчыцкага раёна тэрытарыяльна ўваходзіць у Прыпяцкі запаведнік. Невыпадкова спецыялісты Гомельскага абласнога цэнтра народнай творчасці, аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Лельчыцкага райвыканкама ўдзельнічалі ў фальклорнай экспедыцыі па вёсках і пасёлках Прыпяцкага запаведніка з мэтай распрацоўкі найбольш верагоднай версіі бытавання старажытных народных свят і абрадаў, песень, легенд, паданняў, якіх падчас фальклорнай пілігрымкі было сабрана нямала.

Экспедыцыя, якая праводзіцца ў межах вывучэння фальклору Прыпяцкага запаведніка, па ліку ўжо трэцяя. Раней даследчыкі праходзілі па вёсках і пасёлках Жыткавіцкага і часткова Петрыкаўскага раёнаў. У будучым назапашаны матэрыял дасць магчымасць гасцям і турыстам адчуць магію легенд і паданняў усходніх палешукоў.

## *Музейны ўнікат*

# Галоўны сімвал краіны

**У Музеі сучаснай беларускай дзяржаўнасці, філіяле Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь, адбылася прэзентацыя новага ўнікальнага экспаната — дакладнай копіі Дзяржаўнага сцяга Рэспублікі Беларусь, які быў падняты на сямідзесяціметровы флагшток 2 ліпеня падчас цырымоніі адкрыцця ў Мінску Плошчы Дзяржаўнага сцяга Рэспублікі Беларусь.**

**Раіса МАРЧУК**

У гэты дзень была распачата патрыятычная традыцыя: вядомыя прадстаўнікі беларускага народа ўпершыню прынеслі клятву вернасці Дзяржаўнаму сцягу, які быў перададзены на захоўванне ў Музей сучаснай беларускай дзяржаўнасці.

— Гэты знакавы прадмет з'яўляецца адным з асноўных экспанатаў і месціцца ў зале, прысвечанай станаўленню незалежнай Беларусі і яе дзяржаўным сімвалам, — паведаміў выконваючы абавязкі загадчыка музея Сяргей Ісаковіч.

У прэзентацыі ўзялі ўдзел салістка Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь, заслужаная артыстка Беларусі Аксана Волкава, намеснік камандзіра роты ганаровай варты Ваеннай камендатуры Узброеных сіл Беларусі па ідэалагічнай рабоце Яўген Мельнічэнка, ветэран Вялікай Айчыннай вайны генерал-маёр Аляксандр Фень, які ўдзельнічаў у цырымоніі адкрыцця Плошчы Дзяржаўнага сцяга і прыносіў клятву вернасці.



Фота БелТА

*Побач са сцягам — генерал-маёр Аляксандр Фень.*

# Адбіткі мінулых гадоў

**Беларуская вёска даўно змяніла сваё аблічча. Ідучы пехатой ці едучы аўтобусам, бачыш антэны, шырокія асфальтаваныя вуліцы, сучасныя аўтамабілі, металічныя дахі… Мала дзе захаваліся рысы даўняга побыту, адбіткі мінулага часу.**



Ды ёсць куточкі ў нашай краіне, што зберaглі традыцыі мінуўшчыны. Адзін з іх — Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту, які знаходзіцца непадалёк ад сталіцы, у месцы, дзе зліваюцца рэкі Пціч і Менка, побач з пасёлкам Азярцо. Гэта скансэн — музей пад адкрытым небам, першы і адзіны ў Беларусі. Менавіта тут не толькі захоўваецца, але і прэзентуецца ўнікальная беларуская культура.

Дастаткова малады адносна сваіх замежных папярэднікаў (у 2011-м святкаваў 35-годдзе), беларускі скансэн адкрывае для наведвальнікаў шырокае гістарычнае палатно, якое стваралася пастурова і вялікімі намаганнямі. З 1976 года, калі была прынята пастанова аб стварэнні комплексу, і да нашых дзён калекцыі музея папаўняюцца, удасканальваецца экспазіцыя, паглыбляюцца веды і напрацоўваецца досвед па захаванні і рэстаўрацыі прадметаў.

З самага пачатку скансэн прыцягваў увагу дзеячаў беларускай культуры, у тым ліку вядомых пісьменнікаў. Так, у 1977 годзе ў газеце «Звязда» выйшаў артыкул Уладзіміра Караткевіча «Наш агульны клопат», дзе літаратар патлумачыў неабходнасць стварэння скансэна ў Беларусі і нават выклаў сваё ўяўленне пра тое, якім будзе музей: «…Уявіце сабе вялізнае вадасховішча, хваёвы і лісцёвы лес на яго берагах, а ў гэтым лесе, на ўзлессі і палянах, звезеныя з усіх канцоў Беларусі будынкі. Срэбна-шчапяныя дахі і залаціста-саламяныя стрэхі. Разьблёныя ліштвы і франтоны. Махаюць крыламі ветракі, шуміць вадзяны млын. У лесе — леснічоўка. На беразе — рыбакова хата. Над вяндлярнямі — ядлоўцавы дымок. Тут — тыповы сялянскі двор з Полаччыны ці Ушаччыны, крыху далей — слуцкі або рагачоўскі двор. Уся наша рэспубліка, як на далоні, на плошчы ў нейкіх сто гектараў. На невялікай плошчы — усе праявы помнікаў народнага будаўніцтва: жылога, грамадскага, вытворчага і іншых».

Відавочна, Караткевіч многае прадбачыў. Сёння музей дэманструе характэрныя паселішчы з традыцыйнай забудовай двароў вёскі канца XIX — пачатку XX стагоддзя. Тут прадстаўлены культавыя, адміністрацыйныя, жылыя і гаспадарчыя пабудовы, прывезеныя з розных мясцін нашай краіны. Тэрыторыя скансэна складаецца з экспазіцыйнай, гаспадарчай і ахоўнай зон. У сваю чаргу, экспазіцыйная зона ўмоўна падзелена на шэсць сектараў, якія адпавядаюць гісторыка-этнаграфічным рэгіёнам Беларусі і носяць адпаведныя найменні: Цэнтральная Беларусь, Падняпроўе, Паазер'е, Панямонне, Усходняе і Заходняе Палессе.

Цяпер для наведвальнікаў адчынены толькі тры з названых сектараў: Цэнтральная Беларусь, Падняпроўе, Паазер'е. Зразумела, што інтэр'ер помнікаў пастаянна абнаўляецца і нязменна прыцягвае ўвагу нават самай спакушанай публікі. Тэматычныя выстаўкі, такія, як «Пчалярства на Беларусі» і шэраг іншых, распавядаюць пра промыслы і рамёствы беларусаў. Да свят народнага календара прымеркаваны мерапрыемствы «Каляды», «Шчадрэц», «Масленіца», «Гуканне вясны», «Купальскі вечар», «Спасаўка-ласаўка» і іншыя. Пры гэтым падчас святкаванняў дэманструюць традыцыйныя абрады, праводзяць інтэрактыўныя заняткі з наведвальнікамі.

Не менш цікавы фолк-фэст «Камяніца» (партнёр ААТ «Новы Альянс»), які сёлета будзе святкаваць свой пяцігадовы юбілей, а таксама тэматычныя вечарыны — «Начное брадвейскае шоу», «Ноч класікі ў музеі пад адкрытым небам», якія праводзіліся ў 2011 і 2012 гадах ў межах праекта «Шэдэўры сусветнай класікі ў музеі пад адкрытым небам» (партнёр музея ў гэтым праекце — Беларускі дзяржаўны акадэмічны музычны тэатр).

У музеі праводзяцца спецыяльныя заняткі для дзяцей. Маленькія наведвальнікі з задавальненнем слухаюць пра выпяканне хлеба падчас інтэрактыўнай экскурсіі «Пшанічны каласок», дзе іх знаёмяць з прыладамі апрацоўкі глебы і хатнім начыннем. Карыстаюцца папулярнасцю і тэматычныя экскурсіі: «Забродскія снасці», «Транспартныя сродкі Беларусі» і іншыя. Цяпер супрацоўнікі музея рыхтуюць аўдыёгід, які дапаможа тым, хто не любіць натоўпаў і аддае перавагу вандроўкам у адзіноце.

Музей дэманструе прадметы са сваіх калекцый не толькі на ўласнай тэрыторыі. Яго выставачная дзейнасць спрыяе больш шырокаму азнаямленню жыхароў нашай і іншых краін з беларускай традыцыйнай народнай культурай. Унікальная калекцыя «Беларускія народныя абразы» была прадстаўлена ў Віцебску і Разані (Расія), а калекцыі «Малюнкі на шкле» — у Мінску і Гомелі, «Народнае адзенне» — у Пекіне (Кітай).

Пільная ўвага ў музеі надаецца працэсу рэстаўрацыі музейных прадметаў. Працягваецца аднаўленне двух помнікаў народнай драўлянай архітэктуры — капліцы з вёскі Каралеўцы (сектар «Цэнтральная Беларусь») і царквы з вёскі Барань (сектар «Падняпроўе»).

Музей прапануе шмат цікавага для дасціпных людзей, якія хочуць ведаць гісторыю беларускай вёскі, адчуць атмасферу мінулага ці проста адпачыць.

**Марына ВАРАБЕЙ**

# Сведчаць помнікі і абеліскі

**Помнікі, абеліскі, брацкія магілы, памятныя дошкі… Яны сустракаюцца ў Быхаўскім раёне амаль на кожным кроку, сведчаць пра мужнасць і гераізм савецкіх воінаў і партызан у гады Вялікай Айчыннай вайны. Дагэтуль няма дакладных падлікаў ахвяр смяротных баёў, якія грымелі тут у далёкіх саракавых. Вядома толькі адно: берагі Дняпра шчодра паліты крывёю.**

**Уладзімір БАЦКАЛЕВІЧ**



*Мемарыял «Лудчыцкая вышыня».*

Каля Быхава — самыя вялікія ў Беларусі заліўныя лугі. Усходні бераг нізінны, заходні — высокі, абрывісты. Праз гэтую асаблівасць лінія абароны нашых палкоў летам 1941-га праходзіла не па беразе Дняпра, а за адзін-два кіламетры ад яго, на ўскрайку лесу, і перашкодзіць наступленню варожых перапраў наша пяхота не змагла.

Да 7 ліпеня падраздзяленні 187-й дывізіі займалі ўчастак працягласцю каля 100 кіламетраў, які прызначаўся для ўсяго 45-га стралковага корпуса генерала Э. Магона. Тут была арганізавана магутная супрацьтанкавая абарона, а на заходнім беразе ракі сталі ўзмоцненыя атрады, забяспечаныя гарматамі.

Здавалася б, быхаўскі ўчастак Магілёўскага плацдарма здольны спыніць імклівае наступленне фашыстаў, у тым ліку 2-й танкавай групы Гудэрыяна. Таксія спробы паўтараліся штодзённа. Аднак сілы былі няроўнымі. І раніцай 4 ліпеня немцы занялі Быхаў. А 10 ліпеня два стралковыя палкі 187-й дывізіі фактычна перасталі існаваць.

Гераізм асобных падраздзяленняў Чырвонай Арміі не мог змяніць сітуацыю. Напрамкі іх контратак часта выбіраліся без уліку баявой абстаноўкі. Удары наносіліся не па нямецкіх флангах, а ў лоб, часта на наймацнейшых участках. Рэзервы, якія падыходзілі сюды з цэнтра, без тылу, сродкаў сувязі і транспарту, з мінімальнай колькасцю боепрыпасаў, кідаліся адразу ў бой і, натуральна, ліквідаваць прарыў не змаглі.

Па няпоўнай архіўнай інфармацыі, тысячы абаронцаў Быхава з 102-й стралковай дывізіі (а гэта не менш як тры тысячы чалавек) засталіся ляжаць на палях, у лясах і балотах Прыдняпроўя.

Не менш кровапралітныя схваткі разгарэліся на берагах Дняпра ў канцы 1943-га, калі пачалося вызваленне Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У ноч з 10 на 11 снежня воіны 108-й і 110-й стралковых дывізій выбілі ворагаў з Хачынкі і Папоўкі, а неўзабаве святкавалі перамогу жыхары Чырвонай Слабады, Усохаў, Ніканавіч і іншых вёсак левабярэжнай часткі. Дарэчы, да вызвалення Быхава — 28 чэрвеня 1944 г. — Папоўка была цэнтрам раёна.

У баях асабліва вызначаліся байцы і камандзіры 169-й, 269-й, 129-й, 362-й і іншых стралковых дывізій. Чырвонаармейцы адбівалі па 25 контратак у дзень, забяспечваючы наступленне галоўных сіл арміі. Мемарыяльная дошка на будынку Цэнтра культуры сведчыць: «28 чэрвеня 1944 года 326 Чырванасцяжная ордэна Суворава Верхнедняпроўская стралковая дывізія пад камандаваннем генерала Героя Савецкага Саюза Еншына М. А. вызваліла Быхаў ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў».

Вялікі ўклад у разгром ворага ўнеслі быхаўскія партызаны, якія заявілі пра сябе яшчэ ў лютым 1942 г. Усе іх групы аб'ядналіся ў атрад пад камандаваннем Г. Сазонава. На яго аснове была створана 1-я Быхаўская партызанская брыгада, затым іх стала некалькі. Лясныя мсціўцы ўдзельнічалі ў аперацыях «Рэйкавая вайна», «Канцэрт». У ноч на 3 жніўня яны атакавалі чыгуначную лінію на ўчастку Дашкаўка — пасёлак Чырвоны Араты, знішчылі дзоты, патрульныя вартавыя пасты і падарвалі амаль 3,6 тысячы рэек. Разбурылі мост, асобныя станцыйныя збудаванні, знішчылі некалькі кіламетраў праваднай сувязі. І такіх прыкладаў нямала.

Больш падрабязна пра падзеі Вялікай Айчыннай вайны расказваецца ў кнізе «Памяць. Гісторыка-дакументальная хроніка Быхаўскага раёна», якая ёсць у кожнай бібліятэцы. Мы засяродзім увагу на тым, што больш як 6 тысяч ураджэнцаў раёна загінулі на франтах, 595 мірных жыхароў гітлераўцы спалілі жывымі і 8 660 расстралялі. Лёс Хатыні паўтарылі вёскі Залатое Дно, Студзёнка, Красніца, Боўка, Ветранка, Гарадзея, Дабужа, Лубянка, Лудчыцы, Смаліца, Трылесіна і іншыя — усяго 86 населеных пунктаў.

Заўсёды ў суровы час быхаўчане, рызыкуючы жыццём, бралі ў рукі зброю, каб абараніць сваю зямлю і сям'ю, сваю малую радзіму. Чатырнаццаць (!) удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны атрымалі званне Героя Савецкага Саюза, два ўраджэнцы раёна сталі кавалерамі ордэна Славы трох ступеняў.

За мужнасць і гераізм, праяўленыя пры вызваленні Быхаўшчыны, 11 савецкіх салдат і афіцэраў былі ўганараваны Залатой Зоркай Героя. Сярод іх — рускія Уладзімір Мартынаў і Пятро Вінічэнка, беларус Іван Барысевіч, узбек Гулям Якубаў, казах Сундуткалі Іскаліеў, грузін Галакцiён Размадзэ…

Гэтыя імёны ўвекавечаныя ў назвах вуліц горада і вёсак, іх носяць прадпрыемствы і ўстановы раёна. Яны высечаны на Мемарыяле Воінскай Славы «Лудчыцкая вышыня».

Кіраўніцтва раёна, сельвыканкамаў свята захоўвае памяць пра тых, хто абараняў Радзіму ў гады Грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў, актыўна будаваў новае жыццё. Пра гэта сведчыць больш як 140 помнікаў і абеліскаў рэвалюцыйнай, баявой і працоўнай славы. Быхаўчане не забываюць і пра сваіх воінаў-інтэрнацыяналістаў, сем з якіх загінулі ў гарачым Афганістане.

**Газета «Літаратура і мастацтва» — інфармацыйны партнёр Свята беларускага пісьменства.**

*Сцяжынамі памяці*

# Піліп Пестрак і Беласточчына



Адзін з папулярных паэтаў і празаікаў былой Заходняй Беларусі Піліп Пестрак (1903 — 1978) сёння ў Беларусі амаль забыты. Мужны і вясёлы чалавек, таленавіты пісьменнік, заслужаны дзеяч культуры Беларусі, у 1964 годзе за раман «Серадзібор» атрымаў Дзяржаўную прэмію імя Якуба Коласа. Піліп Пестрак напісаў і выдаў шмат кніг паэзіі, прозы, раман «Сустрэнемся на барыкадах», паэму «Слова пра Мінск».

За сваю рэвалюцыйную дзейнасць Піліп Пестрак у 30-я гады адсядзеў амаль 11 гадоў у польскіх турмах. А ў 1939 годзе, калі на заходніх землях Беларусі ўсталявалася савецкая ўлада, яго абралі дэпутатам Народнага сходу Заходняй Беларусі ў Беластоку. На сходзе была выбрана паўнамоцная камісія на сесію Вярхоўнага Савета СССР у Маскву, у якую быў уключаны і Піліп Пестрак.

У 1940 годзе наш зямляк быў абраны ў Вярхоўны Савет СССР дэпутатам па Гродзенскай акрузе. Яго прымаюць у Саюз пісьменнікаў БССР. А потым літаратар прыязджае ў Беласток. Там ён актыўна ўдзельнічае ў агульным сходзе пісьменнікаў Беластока, прысвечаным творчым вынікам першага года жыцця і працы на савецкай зямлі. Даклад Піліпа Пестрака на гэтым сходзе «Аб маральным вобліку савецкага пісьменніка» пасля публікуе беластоцкая абласная газета «Вольная праца». Пестрака выбіраюць старшынёй бюро беластоцкага аддзялення Саюза пісьменнікаў БССР. Тут, у Доме партасветы ў Беластоку, на вялікім літаратурным вечары ён чытае свае вершы.

У газеце «Вольная праца» Піліп Пестрак пачынае друкавацца часцей. У 1940 годзе ён публікуе верш «З тваім імем у сэрцы», у маі — верш «Першы май», пасля — вершы «Над морам», «Сасна», які прысвяціў Янку Купалу.

У лютым 1941 года ў «Вольнай працы» надрукаваны верш Пестрака «Даклад», у сакавіку — артыкул «Дзяржаўныя прэміі». А ў красавіку ў беластоцкім Доме Чырвонай арміі прайшоў яго літаратурны вечар, які вёў Максім Танк. Праз месяц Піліп Пестрак арганізоўвае літаратурны вечар-сустрэчу Максіма Танка з беларускай моладдзю Беластока.

Планаў і задумак у пісьменніка тады было шмат. Але здзейсніцца ім перашкодзіла вайна. Тым не менш з Беласточчынай паэт сувязей не парываў. У падпольнай газеце «Белостокская правда» 29 лістапада 1943 года ён упершыню друкуе свой новы верш «Слухайце, пушчы, паляны…», напісаны ў Маскве і прысвечаны беларускім партызанам, якія ўзняліся на барацьбу з фашызмам.

Пасля вайны Піліп Пестрак у Беластоку гасцяваў радзей. Ён быў вельмі ўзрадаваны, калі ў 1956 годзе тут пачаў выходзіць беларускі тыднёвік «Ніва». На яго старонках ужо ў кастрычніку друкуюцца вершы Пестрака «Дзівасіл» і «Дарожка», прысвечаныя памяці Якуба Коласа. Верш «Дзівасіл» у 1973 годзе апублікаваў і «Беларускі каляндар», які да сённяшніх дзён выдаецца на Беласточчыне адзін раз на год.

Праз чатыры гады «Ніва» друкуе два апавяданні Піліпа Пестрака — «Прынцыпы» і «Путавод». А ў 1958 годзе на старонках тыднёвіка публікуецца ўрывак з рамана «Сустрэнемся на барыкадах». Літаратар пастаянна чытае «Ніву», «Беларускі каляндар», кнігі беларускіх пісьменнікаў з Польшчы, перапісваецца з імі, сочыць за творчасцю Сакрата Яновіча, Алеся Барскага, Георгія Валкавыцкага, Віктара Шведа, Яна Чыквіна, Яшы Бурша, Дзмітрыя Шатыловіча.

У 1956 годзе разам з Янкам Брылём Пестрак наведвае Беласток, гасцюе ў «Ніве», дзе гутарыць з калектывам рэдакцыі і з кіраўніцтвам Беларускага грамадска-культурнага таварыства (БГКТ). Пасля гэтага на старонках тыднёвіка «Літаратура і мастацтва» друкуе артыкул «Паэзія на старонках «Нівы».

Да апошніх дзён жыцця Піліп Пестрак падтрымліваў сувязі з Беласточчынай, як літаратара і чалавека яго паважалі. Пра творчасць Пестрака пісалі ў «Ніве» і «Беларускім календары» Георгій Валкавыцкі, Мацей Канапацкі, Мікола Гайдук і іншыя калегі-творцы і журналісты з Беларусі і Польшчы.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

*Між іншым*

## І зноў рэстаўрацыя

**У Навагрудку плануюць адрэстаўраваць інтэр'ер касцёла Ператтварэння Гасподня (Фарны касцёл). Праект зацверджаны Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь і атрымаў высокую адзнаку ў Ватыкане.**

**Міра ІЎКОВІЧ**

План узнаўлення распрацавалі выпускніцы Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў — дызайнеры Ганна Радзюк і Наталля Скалковіч, якія раней скончылі мастацка-рэстаўрацыйнае вучылішча ў Міры і даўно займаюцца тэмай Навагрудскага касцёла.

Фарны касцёл у Навагрудку — адзін з самых старых каталіцкіх храмаў у Вялікім Княстве Літоўскім. Яго неаднаразова перабудоўвалі, захоўваючы пры гэтым рысы рознага часу. Касцёл заклаў у 1396 годзе вялікі князь Вітаўт, у ім браў шлюб са сваёй апошняй жонкай Соф'яй Гальшанскай кароль Ягайла, быў хрышчаны Адам Міцкевіч. У храме знаходзіцца ўшанаваны цудатворны абраз Божай Маці Навагрудскай у каталіцкай рэдакцыі.

У адпаведнасці з канцэпцыяй акцэнт пры рэстаўрацыі будзе зроблены на тым, каб захаваць памяць пра разбураныя ў савецкія гады касцёлы і ўшанаваць імёны закатаваных гестапаўцамі ў 1943 годзе адзінаццаці манашак-назарэтанак, прылічаных да ліку блажэнных. Новы выгляд набудзе іх грабніца, з'явіцца надпіс на беларускай мове, а таксама надпіс з імёнамі манашак, схаваны за асобай канструкцыяй.

У адной з капліц, якая пакуль не выкарыстоўваецца, плануецца выставіць знойдзеныя мясцовымі жыхарамі дошкі з часцінамі мошчаў святых, якія былі ўмураваны ў сцены разбураных храмаў. Тут жа дзякуючы спецыяльнаму падсвятленню можна будзе ўбачыць аб'ёмныя выявы згубленых культавых будынкаў. Пачаць рэстаўрацыю плануецца сёлета.

# Мастацкая школа братоў Ціхановічаў



*Яўген Ціхановіч «Партызаны ў разведцы», 1948 г.*

## МАЙСТАР СЮЖЭТНА-ТЭМАТЫЧНЫХ КАМПАЗІЦЫЙ

Яўген Ціхановіч (1911 — 2005) — класічны прадстаўнік беларускага мастацтва з часоў фарміравання афіцыйнага стылю 1930-х гадоў, які быў арыентаваны на стварэнне ўзорных сюжэтна-тэматычных кампазіцый. Ідэалагічная мэта апошніх — выхоўваць ідэальнае ўяўленне пра сацыялістычнае грамадства, яго герояў. Да такой мэты патрабавалася веданне законаў мастацтва, малюнка, жывапісу, кампазіцыі, якімі Яўген Ціхановіч валодаў на прафесійным узроўні.

Ён стаў адным з галоўных майстроў сюжэтна-тэматычнай кампазіцыі як эталоннай працы, замоўленай ідэлагічнымі дзяржаўнымі структурамі. Аднак нельга не адзначыць, што мастацкая падрыхтоўка Яўгена была значна шырэйшай, чым тэматыка, якую той павінен быў адлюстроўваць. Ён прайшоў перыяд навучання, калі шырыліся ідэі нацыянальнага адраджэння, меў сваё значэнне крытычны рэалізм, немагчыма было адвесці вачэй ад толькі што створаных работ Ю. Пэна, прысвечаных побытавай тэматыцы. Таму ў сваіх самастойных творах 1930-х мастак спрабаваў злучыць ідэалагічную тэму з жыццёва выразнымі вобразамі, тыповымі характарамі, нацыянальнымі адметнасцямі і да т. п. Яго этапны твор «Лётчык» (1935) адлюстроўвае маладога авіятара, які ўпэўнена глядзіць у заўтрашні дзень. Юнацкі твар мясцовага хлопчыка свеціцца рамантычнай надзеяй, але, як вядома, гэта пакаленне перажыло трагічныя часы, і святло шчаслівага дня многія яго прадстаўнікі не ўбачылі.

У наступныя гады мастак прысвячаў увагу рамантычнай вясковай тэматыцы. Гэта можна лічыць падрыхтоўкай да карціны з серыі калгасных свят, але пачалася вайна. Мастак адчуў усе цяжкасці жыцця ў акупіраваным Мінску. Вынікам гэтага часу былі кампазіцыі, створаныя пасля вызвалення: «У няволю» (1944), «Апавяданне байца» (1946) і інш. Канец 1940-х для майстра — сапраўдны творчы трыумф. Ён здолеў быць для савецкай улады ўзорным мастаком, якому даравалася змушанае акупацыйнае мінулае. Афіцыйны заказ, прысвечаны партызанам, гэтаму пацвярджэнне. Творца на сапраўдным уздыме спалучыў вобразы партызанаў-разведчыкаў. Ёсць пэўная тэатральнасць у гэтай сцэне, ваяры стаяць на адкрытай палянцы, што не вельмі адпавядае прынцыпам маскіроўкі. Тым не менш твор гэты распачынаў вялікую тэматыку ў беларускім мастацтве, якую мы можам лічыць нацыянальнай. Яшчэ адзін важны аспект: мастак не стварае карціну ваенных дзеянняў, а паказвае гераічныя вобразы барацьбітоў за свабоду.

У гэтым ключы і пачало развівацца надалей беларускае мастацтва 1960 — 1970-х гадоў. Майстра крыху збавіў жыццёвы лірызм, пачаў пісаць у межах заказной праграмы. У гэтым заключаецца і слабасць параднага мастацтва, якое не выяўляе асабістых адносін аўтара да тэматыкі. Прыклады таму — «Прыезд савецкай дэлегацыі на Парыжскую мірную канферэнцыю» (1948), «Падзел зямлі» (1949) і г. д. У больш дэмакратычным і пошукавым плане ён працягваў працаваць у жанры партрэта, ствараючы псіхалагічна выразныя вобразы Зінаіды Волкавай, Мікалая Гусева, Аляксея Глебава і інш. Пад уплывам свайго брата ў позні перыяд творчасці Яўген Ціхановіч стаў займацца графікай. Гэта выдатныя акварэлі, эцюды, кніжныя ілюстрацыі беларускай літаратуры. Яму належыць графічны і жывапісны партрэт рэпрэсіраванага драматурга, народнага артыста БССР Уладзіслава Галубка, які даводзіўся яму цесцем. Экслібрысы мастака з поспехам экспанаваліся як у СССР, так і за межамі: на сусветнай выстаўцы ў Японіі «Экспа-70», у Польшчы, Чэхаславакіі, Венгрыі, ГДР, Югаславіі, Партугаліі. На кніжных знаках можна ўбачыць першадрукара Ф. Скарыну, рэвалюцыянераў, грамадскіх дзеячаў К. Каліноўскага, Я. Купалу, Я. Коласа, М. Багдановіча, П. Броўку, М. Танка і іншых. За выстаўку экслібрысаў, падараваную музею венгерскага горада Дунайварош, Яўгена Ціхановіча абралі ганаровым грамадзянінам. Ён быў майстар афортнага партрэта, заўсёды знаходзіў месца для арнаментальных беларускіх матываў, зрабіў значны ўнёсак у мадэрнізацыю графікі малых форм.

## ГРАФІК-ІЛЮСТРАТАР




Валянцін Ціхановіч (1909 — 1978) пакінуў пасля сябе каласальную графічную спадчыну. Застаецца ўражанне, што ён і дня не мог пражыць без малюнка. Як і брат, мастак вучыўся ў Віцебску. У 1930-х працаваў у Мінску, дзе пасля перажыў гады акупацыі. Увесь пасляваенны час працаваў як ілюстратар, пераважна пазнавальных, казачных жанраў літаратуры. Імкнуўся трымацца ў цені ад пампезнай ідэалогіі. Адразу ж пасля вайны склаўся яго аўтарскі стыль у такім трапным графічным малюнку, як, напрыклад, вокладкі для кніг «Матрошкіны казкі» (1950), «Алёнчыны казкі» (1959), вокладкі беларускіх народных казак «Зімоўе звяроў» (1955), «Сабака і воўк» (1959), «Удовін сын» (1961). Гэтая тэматыка падштурхнула яго да далейшай распрацоўкі анімалістычных вобразаў. У калекцыі Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь захоўваюцца ілюстрацыі да твораў М. Прышвіна, З. Бядулі, В. Гаршына, Я. Пушчы, В. Віткі, У. Ляўданскага. Вельмі цікавы вынік атрымаўся ў Валянціна Мікалаевіча, калі ў канцы 1950-х ён ілюстраваў уласную кнігу «Са стрэльбай і вудай». Яго стыль набыў выключную выразнасць, лаканізм, вастрыню малюнка. Як і брат, вялікую ўвагу ў позні перыяд творчасці ён прысвяціў экслібрысу. Разам яны стварылі больш як 400 экслібрысаў, якія былі перададзены ў калекцыю Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь.

На лёсе мастакоў адбілася складаная эпоха перамен, пачынаючы з рэпрэсій 1930-х, ваенных ліхалеццяў, напружанага пасляваеннага развіцця мастацкага працэсу, у якім новыя ідэалагічныя задачы былі неўзабаве пераадрасаваны мастакам маладзейшага ўзросту. Адсутнасць мастацтвазнаўчых кадраў і адносная недасведчанасць даследчыкаў, якія больш паглыбляліся ў эпохі мінулых стагоддзяў, прывяла да таго, што вядомыя мастакі засталіся ў цені прафесійнай і грамадскай увагі. Віцебскі мастацкі тэхнікум святкуе 90-годдзе. Выдатнымі выпускнікамі гэтай установы былі браты Ціхановічы. Інертнае маўчанне пра іх павінна ператварыцца ў зацікаўленую прафесійную дыскусію, прысвечаную спадчыне сапраўдных класікаў XX стагоддзя. Без актыўнага ўдзелу гэтых мастакоў не змагла б развівацца прафесійная мастацкая школа, якой ганарыцца беларускае выяўленчае мастацтва і на якую надалей будуць абапірацца творцы.

**Людміла НАЛІВАЙКА,**
**Яўген ШУНЕЙКА**



*Валянцін Ціхановіч. Ілюстрацыя да беларускай казкі «Сабака і Воўк».*

ЛіМ

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**



**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2586
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 08.08.2013 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 3380
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686